НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 46 (835) 11 снежня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛ УСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1 … прыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Добра, што я не ў Еўропе...

## Украінцы хочуць у Еўропу без Януковіча

Падзеі ў Кіеве — старонкі 2—3.

...Усе там будзем!

**Нерухомасць**

### Бакіеў будуецца побач з новым катэджам Пракаповіча?

Пасёлак Нацбанка каля Драздоў. **Старонка 6.**



**Гутарка**

### Рэўнасць руйнуе каханне

Акадэміку Радзіму Гарэцкаму споўнілася 85.
**Старонка 9.**



**Літаратура**

### Вада і штосьці яшчэ

Калядная апавяданне. Марына Вашкевіч.
**Старонка 11.**



**Гэта было**

### Забойства ў горадзе Светлым

Пагроза сына забіць бабулю здавалася ёй балбатнёй.
**Старонкі 12—13.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з’яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**


REUTERS

Гэта і ёсць народ: людское мора на вуліцах Кіева. У цэнтры: на каляднай яліне замест шароў — фота зняволенай Юліі Цімашэнкі.

# Украінцы хочуць у Еўропу без Януковіча

8 снежня на Майдан зноў выйшлі сотні тысяч людзей.

Прасторны Майдан Незалежнасці і шырокі Хрышчацік былі цалкам запоўнены людзьмі. І гэтыя сотні тысяч спявалі «Шчэ не ўмерла Украіна».

Усё пачалося з пратэстаў супраць прыпынення еўраінтэграцыі. А перарасло ў патрабаванне адстаўкі Януковіча і змену рэжыму.

Улады, якую дэманстранты лічаць карумпаванай. Адсюль і лозунг: «Банду гэть», гэта значыць «прэч». І «Зэка гэть» — як вызвілася, прэзідэнт Януковіч у маладосці сядзеў у турме, бо краў у жанчын шапкі.

Украінцы спадзяваліся, што дамова з Еўропай звяжа рукі ўкраінскім «клептакратам» і паверне краіну ў лепшым кірунку. Таму, калі пагрозы Расіі перакрыць украінскім таварам дарогу на расійскі рынак напалохалі ўкраінскія ўлады, гнеў людзей аказаўся звернуты і на адрас Пуціна..

Януковіч доўгі час лавіраваў між Масквой і Захадам. А цяпер устаў перад цяжкім выбарам. Ён спрабаваў адкласці яго. Тут абурыўся народ.

Эмацыйным пікам пратэстаў стаў знос помніка Леніну каля Бесарабкі. Яго зачапілі тросам і павалілі.

Маштаб пратэстаў стаў для ўрада шокам (і для апазіцыі таксама). Да нядзелі Януковіч спадзяваўся, што ўсё неяк само сабой разыдзецца. Не разышлося. Тады ў панядзелак пачалі дзейнічаць сілавікі. Найперш улады знялі блакаду з адміністратыўных будынкаў.

У панядзелак міліцыя ў Кіеве пачала ўжываць тактыку ўдушэння.

Былі закрыты крамы і кавярні ў зоне Майдана. Абаронцаў барыкад не затрымліваюць, але ў іх забралі біятуалеты і абмежавалі падвоз вады і прадуктаў — тое самае рабілі ў Мінску на Плошчы ў 2006-м.

Паралельна спецслужбы канфіскавалі камп'ютары з офіса галоўнай апазіцыйнай партыі «Бацькаўшчына».

Самаабарону Майдану спецназ без асаблівай цяжкасці з барыкадаў адсунуў. Дэманстрантаў аказалася замала, каб запоўніць такую вялікую прастору. На кожнай з барыкад былі дзясяткі і сотні, але не тысячы людзей.

250 сяброў правай партыі «Свабода» найдаўжэй — да 2.30 ночы — трымалі блокпост каля Адміністрацыі прэзідэнта. Але пад ранак не вытрымалі і яны. Праўда, мітынгоўцаў не затрымліваюць. Сілавікі далі ім калідор, каб проста сысці на ўласна Майдан.

На самім Майдане ў панядзелак і аўторак ізноў сабраліся тысячы людзей, нягледзячы на моцны снег. Але нядзельная эйфарыя ў Кіеве змянілася складаным пачуццем.

Януковічу ўдалося лёгка прадэманстраваць, якён можа ліквідаваць Майдан, калі толькі захоча.

Віцэ-прэзідэнт ЗША, старшыня Еўракамісіі і міністры замежных справаў еўрапейскіх дзяржаваў заклікалі ўкраінскія ўлады ўстрымацца ад ужывання сілы. А намесніца сакратара Дзярждэпартамента Нуланд правяла перамовы ў Маскве па ўкраінскім пытанні.

У аўторак Нуланд, а таксама кіраўніца еўрапейскай дыпламатыі Эштан мелі прыбыць у Кіеў. Еўропа заклікае да правядзення круглага стала ўладаў і апазіцыі.

**Мікола Бугай**

**Майдан і Плошча: 3 адрозненні**

1 У Мінску на Плошчу выходзілі дзясяткі тысяч, у Кіеве сотні

2 У Мінску ўдзельнікаў пратэсту затрымлівалі за сам факт удзелу, у Кіеве — не

3 У Мінску Плошчы ў 2006-м і 2010-м пачыналіся ў вялікі мароз, у Кіеве — пры тэмпературах блізкіх да нуля

**Беларускі аўтобус да Майдану не даехаў**

53 беларусы захацелі паехаць на Майдан, выказаць салідарнасць з украінцамі. Людзі нанялі аўтобус да Кіева, але пачалі красавацца ў сацсетках: «Мы едзем, далучайцеся!». А журналісты пачалі рабіць пра гэта матэрыялы ў СМІ.

Вынік: аўтобус спынілі пад Мар'інай Горкай.

Юрыстка Дар'я Каткоўская, адна з ініцыятарак паездкі, апраўдваецца: «Прачытала шмат каментаў на сайтах аб тым, што самі вінаватыя, што ваш аўтобус затрымалі, трэ' было партызанскімі сцежкамі ехаць, нікому нічога не расказваць. Хачу растлумачыць сваю пазіцыю. Я не бачу ніякіх прычын для таго, каб хаваць абсалютна законную дзейнасць: я рэалізоўвала сваё канстытуцыйныя правы на распаўсюд інфармацыі, на свабоду перамяшчэння, на выказванне меркавання. Я лічу, што, як толькі мы пачынаем у такіх простых рэчах хадзіць партызанскімі сцежкамі, хавацца — мы пачынаем гуляць па правілах тых, хто хоча, каб мы баяліся, каб нас не было чуваць і відаць».

Сама Каткоўская і яшчэ два дзясяткі пасажыраў затрыманага аўтобуса ўсё ж дабраліся да Кіева на папутках і сталі сведкамі Маршу мільёнаў і таго, як украінскія дэманстранты павалілі помнік Леніну.

## Сцісла

**А шумелі: экспарт, экспарт**

Падзенне экспарту проці мінулага года склала каля 10 мільярдаў даляраў. Так, экспарт нафтапрадуктаў скараціўся ў студзені—кастрычніку на 3,89 млрд даляраў у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам, растваральнікаў — амаль на 2,8 млрд даляраў, матэрыялаў змазачных — прыкладна на 1 млрд. даляраў, бо Расія спыніла магчымасці іх рээкспарту. Менш прадалі і калійных угнаенняў, а таксама грузавікоў — на 377 млн даляраў, трактароў і цягачоў — на 301 млн даляраў.

**Лукашэнка: У праектаванні сёння поўны беспрадзел**

У Мінска 10 снежня прайшла нарада па пытаннях будаўніцтва і дзяржкіравання, якую кіраўнік дзяржавы параўнаў з пленумамі ЦК КПСС.

**Правялі эксгумацыю цела Пцічкіна**

Родныя хлопца дамагаліся правядзення эксгумацыі амаль чатыры месяцы пасля пахавання. 21-гадовы Ігар Пцічкін 4 жніўня памёр у СІЗА, дзе ён адбываў трохмесячны арышт за язду без правоў. Родныя не вераць у афіцыйную версію смерці.

**Расія спіша Кубе $ 29 мільярдаў доўгу**

Запазычанасць набралася яшчэ ў часы СССР, а плаціць Кубе няма чым.

**СМ**

## Апытанне на nn.by

**Ці падтрымліваеце Вы знос помніка Леніну, ажыццёўлены дэманстрантамі ў Кіеве?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 1203 | 72% |
| Не | 118 | 7% |
| Знесці трэба, але не такім спосабам | 343 | 21% |

Усяго прагаласавала 1664.

## Рэкамендуем

**Кавярні сына Уладзіміра Канаплёва**

Чытайце і глядзіце на сайце nn.by

## Самае чытанае на nn.by за 4—10 снежня

1 Еўрарэвалюцыя ў Кіеве: тысячы людзей на Майдане

2 Марш мільёнаў у Кіеве

3 Аўтобус з беларусамі, што ехалі на Майдан, спынілі праз гадзіну ў Мар'інай Горцы

4 Лукашэнка: Перыяд дыктатуры сканчаецца, пачынаецца перыяд дэмакратыі

5 Дэманстранты ў Кіеве знеслі і раструшчылі помнік Леніну

6 Якія супермаркеты самыя танныя? Параўнанне цэнаў у дзесяці сетках

7 Някляеў на Майдане: «Сёння тут вырашаецца лёс Беларусі»

8 Відэазварот Сяргея Міхалка да беларускага народа — відэа

9 Ці выйшлі б Вы на «Беларускі Майдан»?

10 У Бабруйску абезгаловілі 21-гадовую дзяўчыну

# «Кровосісі» Мікалая Азарава

З чаго **смяюцца ўкраінцы**.

Беларусы сочаць за апошнімі падзеямі ў Кіеве, ведаючы усе патрабаванні пратэстоўцаў: датэрміновыя выбары і падпісанне Дамовы пра асацыяцыю з Еўропай. Але сярод першых патрабаванняў — адстаўка прэм'ера Азарава, які прыпыніў падпісанне еўраінтэграцыйных дакументаў.

Мікола Янавіч Азараў нарадзіўся ў расійскім Нечарназем'і, у горадзе Калуга. Ва Украіну ён пераехаў у 1984 годзе і амаль за 30 гадоў так і не здолеў авалодаць украінскаю мовай.

Вострая на язык апазіцыйная дэпутатка Ірына Фарыон з трыбуны сказала, што «бачыць толькі дзве прычыны гэтага: палітычныя перакананні ці разумовая адсталасць».

Раней Азараў быў адным з рэдкіх для Украіны палітыкаў, які не гаварыў па-ўкраінску зусім. Калі Януковіч зрабіў яго прэм'ерам — зручны выбар, бо Азараў не мае шанцаў стаць лідарам і кандыдатам у прэзідэнты, — Азараў пачаў гаварыць па-ўкраінску. Усё ж дзяржаўная мова ва Украіне адна.

І Украіна кладзецца ад смеху ад мовы Азарава. Найгорш Азараву даецца «ікавізм» — ва ўкраінскай мове ў закрытых складах «о» і, часткова, «е», як вядома, пераходзіць у «і». Таму ва ўкраінцаў «лёс» — гэта «ліс», а «нос» — «ніс». У той жа час «вада» — «вода», а «грошы» — «грошы». А Азараў не адчувае, дзе мусіць быць «і», а дзе «о».

На афіцыйнай нарадзе Азараў заявіў пра неабходнасць закупляць пасажырскія «вагіны», а не вагоны, хоць вагіна і па-беларуску, і паўкраінску азначае жаночы палавы орган.

Раскраданнем бюджэту ў Азарава займаюцца «кровосісі» — ён меў на ўвазе «кровососы».

Былі ў Азарава і «потнікі» падаткаў, а «пакрашчання» — улюбёны выраз прэм'ера ў дачыненні да эканамічнай сітуацыі, ён мае на ўвазе «паляпшэнне» — надыдзе «папізже», гэта значыць пазней.

Няма Азараву чым пахваліцца і ў эканоміцы. Гаспадарка не расце, а золатавалютныя запасы за тры гады паменшалі ўдвая — з 36 мільярдаў да 18. Можна сказаць, што запасаў у пана атамана не засталося... Вось і выставілі Мікола Янавіч і Віктар Фёдаравіч краіну на геапалітычны торг між Масквой і Еўропай.

**Кірыла Хілько**



### Меню Майдана

З голаду на Еўрамайдане не памрэш. Прадукты прыносяць як простыя людзі, так і бізнэсоўцы. У раёне пратэстаў арганізавана некалькі пунктаў прыёму прадуктаў у КГДА, Доме прафсаюзаў, на самім Майдане Незалежнасці. Ёсць і невялікае сховішча ў суседнім праваслаўным Міхайлаўскім манастыры, які адчыніў сваю браму для пратэстоўцаў.

Прадукты сапраўды нясуць і старыя, і маладыя — карэспандэнты «НН» былі сведкамі.

Апазіцыя прыгнала на Еўрамайдан і некалькі сапраўдных палявых кухняў. Таксама стравы вараць на вогнішчах адначасова ў некалькіх велізарных казанах.

Асноўная страва Еўрамайдана — бутэрброды: з белага і чорнага хлеба, з каўбасою, сырам і салам у самых розных варыяцыях. На гарачае звычайна даюць грэчку ці рыс з той жа каўбасою, сасіскамі ці тушонкай і кавалкам хлеба.

Аднак часам раздаюць і сапраўдныя далікатэсы, кшталту вэнджанай рыбы — калі хтосьці ахвяруе яе ў пункт прыёму. На салодкае — згушчанае малако.

Па ежу звычайна стаяць доўгія чэргі, але часта валанцёры выходзяць з падносамі бутэрбродаў, чаю, гарачай кашай проста ў натоўп.

Кормяць пратэстоўцы і байцоў Унутраных войскаў, што стаяць у ачапленні. Яны выдаюць салдатам таксама кардонкі, каб цяплей было стаяць на марозе. Такім чынам дэманстранты падкрэсліваюць мірны характар свайго пратэсту.



REUTERS

**Уначы на Майдане штогадзіну спяваюць гімн «Шчэ нэ ўмэрла Украіна». Часта яго выконвае пераможца «Еўрабачання» спявачка Руслана, што праводзіць на плошчы ўсе ночы.**

### Беларусы скандуюць

«Жыве Беларусь!» А адказ — «Жыве вечна». А ўкраінцы — «Слава Украіне!» А адказ: «Героям слава!»

### Жытло Майдана

На Еўрамайдане ў Кіеве пратэстоўцы забяспечаныя ўсім неабходным і могуць жыць нават без грошай. Спаць можна ў будынку Кіеўскай гарадской дзяржаўнай адміністрацыі, Доме прафсаюзаў, уцепленых палатках.

На самім Майдане таксама працуе сістэма пошуку жытла, куды можна звярнуцца і пашукаць гаспадара, які пагодзіцца прытуліць аднаго ці некалькіх чалавек.

А журналістам некаторыя людзі прапануюць прытулак па ўласнай ініцыятыве. Гэтым скарысталіся і рэпарцёры «Нашай Нівы».

# Царква з народам

**Святары Украіны** зрабілі свой выбар.

«Міліцыя з народам!» — лозунг нярэдкі на кіеўскіх барыкадах. Гэта «Беркут» не з народам, бо занадта яскрава выявіў сябе ў пятніцу і нядзелю (хоць вінніцкія і львоўскія падраздзяленні разганяць людзей адмовіліся). А міліцыя папярод «баці» ў пекла не лезе. Войска таксама з народам — слоган загучаў у дзень, калі ўкраінцы святкуюць Дзень узброеных сілаў.

А яшчэ ва Украіне з народам — царква. Большасць цэркваў у супольнай заяве асудзіла разгон Еўрамайдану. Марш мільёна ў Кіеве 8 снежня — а на вуліцы сапраўды выйшлі сотні тысяч людзей — пачаўся з малебна і слова кардынала Любаміра Гузара.

Калі актывісты заблакавалі аўтобусы з «Беркутам» у Васількове, некалькі святароў сярод іх заявілі, што лягуць пад колы, але не дадуць калоне рухацца ў Кіеў.

Наўрад ці гэтаму здзівіцца еўрапеец — там царква, як і любы іншы незалежны інстытут з сацыяльнымі функцыямі, не можа не мець свайго меркавання. Дый сваё меркаванне і магчымасць яго выказаць — адна з базавых еўрапейскіх каштоўнасцяў. Здзівіцца можа беларус, бо праваслаўная і каталіцкая цэрквы ўпарта маўчалі пасля разгону Плошчы ў 2010 годзе.

Украінская царква, між іншым, і рашуча дзейнічала: у праваслаўным Міхайлаўскім Залатаверхім мужчынскім манастыры, што каля Майдана Незалежнасці, падчас разгону схаваліся 350 дэманстрантаў.

Да Міхайлаўскага манастыра ад Майдана Незалежнасці вядзе крутая вуліца Міхайлаўская. «Людзі забеглі і пагрукаліся ў дзверы храма, мы адчынілі і запусцілі іх унутр», — расказаў карэспандэнту «Нашай Нівы» святар.

Людзі правялі ноч на падлозе храма. Манахі пасцялілі дываны, напаілі людзей чаем. І не адмыкалі браму да 11-й гадзіны наступнага дня, пакуль ля яе дзяжурылі байцы «Беркута». Бо «святар, як і доктар, мусіць дапамагчы любому», — кажа мне бацюшка.



«Быць тут — наш выбар як асобаў і адначасова як прадстаўнікоў царквы,— кажа айцец Мікалай з Украінскай грэкакаталіцкай царквы, які стаіць ля намёта-каплічкі, усталяванай на Майдане Незалежнасці. — Гэтая каплічка стаіць на месцы, дзе пралілася кроў. Кроў бязвінных людзей, якія выйшлі на мірную дэманстрацыю. Мы не становімся пад якія-небудзь палітычныя лозунгі. Мы молімся за людзей і разам з людзьмі. Царква мусіць быць з людзьмі, а людзі тут, таму і мы тут».

Пад лістом, што асуджае насілле супраць дэманстрантаў, падпісаліся Украінская праваслаўная царква Кіеўскага патрыярхата, Украінская грэка-каталіцкая царква, Украінская аўтакефальная праваслаўная царква, таксама іншыя гістарычныя цэрквы. Прамаўчала толькі Украінская праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхата (УПЦ-МП).

Зрэшты, нават УПЦ-МП разам з іншымі цэрквамі падпісала зварот у падтрымку еўрапейскага выбару. Але гэта было тады, калі за збліжэнне з Еўрасаюзам быў і Януковіч.

**Кірыла Хілько, Кіеў**

# «Жанчына — ідэальны воін»

Пяць фактаў пра дзяржсакратара Рады бяспекі **Аляксандра Мяжуева**.

Аляксандр Лукашэнка не адважыўся прызначыць свайго старэйшага сына Віктара на пасаду дзяржсакратара Рады бяспекі. Выбар паў на кар'ернага вайскоўца Аляксандра Мяжуева. «НН» сабрала цікавыя факты пра сілавіка.

### Ажаніўся ў 19 гадоў

Мяжуеў нарадзіўся ў 1959-м у Ляхавічах. Адукацыю, як і большасць вайскоўцаў, атрымліваў за межамі Беларусі. Скончыў Кіеўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча, Вайсковую акадэмію імя Фрунзэ ў Маскве, а таксама Вайсковую акадэмію генеральнага штаба Узброеных сілаў Расійскай Федэрацыі. У званні генерал-маёра.

Праходзіў службу ў камандных і штабных пасадах: камандзіра брыгады, намесніка камандуючага войскамі аператыўнага камандавання, камандуючага войскамі аператыўнага камандавання, начальніка Галоўнай вайсковай інспекцыі Беларусі.

Жаніўся ў 19 гадоў, мае трох сыноў (усе адслужылі ў войску). Казаў, што так рана жаніўся, бо баяўся ссылкі ў аддалены гарнізон пасля вучобы. «Не камандуе, але кіруе ў хатняй гаспадарцы жонка, я ёй цалкам давяраю», — казаў Мяжуеў у адным з інтэрв'ю.

### Самы вялікі прыбытак

Дэпутатам палаты прадстаўнікоў Мяжуеў быў абраны па 52-й выбарчай акрузе ў Гродне. Акруга была безальтэрнатыўнай.

Самае цікавае, што Мяжуеў быў самым багатым кандыдатам у дэпутаты. Ягоны прыбытак за год перад выбарамі склаў аж 33 тысячы даляраў.

У палаце прадстаўнікоў Мяжуеў узначальваў камісію па нацыянальнай бяспецы.



### Былы падначалены Валерыя Фралова

«Гэта мой былы падначалены, — кажа генерал Валерый Фралоў, які сышоў у апазіцыю. — Некалі яму нават па-за чаргой прысвоілі званне палкоўніка. Вельмі прафесійна падрыхтаваны чалавек, прыстойны. Не ведаю, які ён цяпер, а раней у мяне заставаліся ад яго найлепшыя ўражанні. Але здараецца, што жыццё ламае маіх былых сяброў. Не бачаць яны ў сабе сілаў, каб нешта змяніць у краіне.

Ён некалі, здаецца, у 97-м, кіраваў ліквідацыяй наступстваў урагану ў Брэсцкай вобласці. Памятаю, што некалі да нас прыязджалі амерыканцы, мы да іх ездзілі, яны да нас, дык Мальцаў [былы міністр абароны — «НН»] адправіў іх у Брэст да мяне. Мяжуеў тады выдатна арганізаваў прыём, наведванне Брэсцкай крэпасці, іншыя бытавыя моманты. Амерыканцы былі вельмі задаволеныя».

### Супраць войска па кантракце і скарачэння тэрміну службы

Мяжуеў казаў, што Нямеччына, перайшоўшы на кантрактнае войска, страціла ў сваёй абараназдольнасці, бо на кантракт у асноўным ідуць іншаземцы дзеля грошай.

Таксама генерал раскрытыкаваў змяншэнне тэрміну службы з паўтара года да года. Тым самым, хутчэй засведчыў сябе як кансерватар. Выказваў заклапочанасць «актыўнасцю» НАТО на мяжы з Беларуссю.

### «Жанчына — гэта ўзорны воін»

Аднойчы ў Мяжуева папыталіся аб стаўленні да жанчын у войску. Вось такі быў адказ: «Я вам так скажу: жанчына — гэта ўзорны воін. Яна не парушае вайсковую дысцыпліну, добрасумленна ставіцца да выканання службовых абавязкаў, ёй не трэба паўтараць двойчы. Жанчына п'яная за рулём не ездзіць, у нецвярозым стане ў грамадскіх месцах, як правіла, не з'яўляецца. Пры гэтым яна яшчэ і сям'ю ўтрымлівае. Так што тут усё заканамерна».

Сваім хобі Мяжуеў называе спорт. Кажа, што ўсур'ёз займаўся гандболам, дзюдо, гірамі, а цяпер кожны чацвер ходзіць у басейн.

Ад лістапада Аляксандр Мяжуеў з'яўляецца кіраўніком Беларускага саюза афіцэраў.

**Зміцер Панкавец**

## Ксяндза Лазара выпусцілі з турмы, але ніхто не ведае, дзе ён

«Апостальская Нунцыятура ў Рэспубліцы Беларусь была праінфармавана кампетэнтнымі органамі краіны аб тым, што няма больш падставаў для далейшага ўтрымання ксяндза Уладзіслава Лазара ў следчым ізалятары КДБ.

Было прынята рашэнне, што падчас следства, якое яшчэ працягваецца, святар павінен знаходзіцца ў пастаянным месцы, маючы свабоду перамяшчэння і дзеяння, паводле вызначаных нормаў, з абавязкам штодзённай рэгістрацыі ў аддзяленні міліцыі. Апостальская Нунцыя папрасілі забраць ксяндза Лазара са следчага ізалятара КДБ», — так гучала афіцыйнае паведамленне каталіцкага касцёла ў Беларусі.

Лазар ад 1 чэрвеня знаходзіўся ў турме КДБ па падазрэнні ў садзейнічанні ў шпіянажы. Справа была закрытай, ад супрацоўнікаў спецслужбаў амаль не з'яўлялася ніякай інфармацыі. Па сённяшні дзень так і невядома, хто быў тым сілавіком, якога абвінавацілі ў шпіянажы і якому нібыта дапамагаў Лазар.

У КДБ пацвердзілі, што з ксяндза Лазара ўзятая падпіска аб нявыездзе.

Невядома ўсё яшчэ, дзе знаходзіцца святар пасля выхаду з «Амерыканкі». Прапісаны ён у Мар'інагорскім касцёле, але там ужо даўно іншы ксёндз. Хатні нумар бацькоў у вёсцы Канюхі Маладзечанскага раёна не адказвае. Сястра Яніна кажа: «Я не магу размаўляць», пасля чаго кідае слухаўку.

Нунцый Клаўдзіа Гуджэроці адказаў, што разумее зацікаўленасць грамадства, але нічога сказаць не можа.

**ЗП**

# 1000 старонак турэмнай нядолі

**Анталогія твораў** беларускіх палітзняволеных выходзіць у Вільні.

Вялізны том пабачыць свет у пачатку наступнага года. Прымеркавана выданне да чарговай гадавіны разгону Плошчы-2010. Уступам да кнігі Рыгор Барадулін напісаў верш, радок з якога і даў назву ўсёй кнізе.

Анталогію склаў літаратуразнаўца Аляксандр Фядута. Ідэя да яго прыйшла ў 2011, калі сам знаходзіўся за кратамі. «У адзіночнай камеры цяжка знайсці суразмоўцу, а суразмоўца быў вельмі патрэбны, каб не звар'яцець. І я пачаў пісаць вершы — як у юнацтве. Спачатку адрасаваў іх жонцы, пасля — сябрам. Затым я пачаў пісаць успаміны пра горад свайго дзяцінства», — тлумачыць сам Фядута, чаму пачаў пісаць за кратамі — каб гаварыць з паперай. Так узніклі «Амерыканскія вершы», якія ўжо выйшлі кнігай, і ўспаміны пра Гродна «Мой маленькі Парыж», фрагменты з якіх публікуюцца ў анталогіі.




**Голас волі з-за кратаў.** Анталогія твораў беларускіх палітзняволеных. / Складальнік А. Фядута. — Вільня: ЕГУ, 2013. — 990 с.




НАСТАСЯ ХРАПОВІЧ

**Анатоль Лябедзька прэзентаваў у Мінску кнігу «108 дзён і начэй у засценках КДБ». Аснову кнігі склалі нататкі палітыка аб зняволенні пасля Плошчы-2010. «108 дзён і начэй» будзе прэтэндаваць на прэмію Францішка Аляхновіча — за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні.**

«Голас волі з-за кратаў» склалі тэксты, напісаныя ў турме, на свабодзе, але пра зведанае ў няволі: вершы, проза, успаміны. Васямнаццаць аўтараў — 990 старонак.

У кнігу трапілі не толькі тэксты тых, хто пацярпеў па справе Плошчы-2010. Хаця такіх і большасць: Уладзімір Някляеў, Наталля Радзіна, Ірына Халіп, Алесь Кіркевіч, Зміцер Дрозд... Сярод аўтараў — асуджаныя па справе анархістаў Аляксандр Францкевіч і Ігар Аліневіч, журналіст Андрэй Пачобут. Публікуюцца фрагменты з кнігі былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіля Лявонава, дзённікі журналіста Паўла Шарамета.

Анталогія не ўсёабдымная. «Шэраг аўтараў з той ці іншай прычыны адмовіліся змясціць свае тэксты. Нехта папросту не паспеў іх перадаць. Пра некаторыя тэксты мы даведаліся тады, калі праца над кнігай была зрабіўшыся сканчаная. Чыесьці кнігі выйшлі дастаткова вялікімі накладамі зусім нядаўна і даступныя шырокаму чытачу ў інтэрнэце», — тлумачыць складальнік.

Творы надрукаваны на мове арыгіналу — то бок па-беларуску, па-расійску ці па-польску.

Выданне здзейснена пры падтрымцы Фонду Конрада Адэнаўэра.

**Сяргей Макарэвіч**

Рыгор Барадулін

## Голас волі

Голас волі з-за кратаў,
Ён зрынае са стодаў
Крывісмокаў, вар'ятаў,
Трыстуноў млосных одаў.

Вея лютасці вые,
Падраслі маладыя.
Не прымаюць іх шыі
Хамуты залатыя.

Рух не спыняць ніколі
Ані здрадай, ні хлуссю.
Сцяг
Пагоню на волю
Ўзносіць над Беларуссю.

Нашы дні, як навелы,
Значаць крылы палёту.
Беларус —
Значыць, смелы,
Непадлеглы прыгнёту.

Дух змаганняў не кволы —
Ні паразаў, ні стратаў.
Весніць высі і долы
Голас волі з-за кратаў!

**23 кастрычніка 2013**

# Як Малдова траціць еўрапейскую дапамогу?

Краіна атрымала **на правядзенне мадэрнізацыі** больш за 2 мільярды еўра.

На лістападаўскім саміце Усходняга партнёрства ў Вільні Малдова нарэшце парафіравала пагадненне аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Да паўнавартаснага сяброўства ў арганізацыі яшчэ далёка, але асноўныя бонусы ад выбару заходняга вектара развіцця Малдова хоча атрымаць ужо налета. Для эканомікі краіны — гэта ўвядзенне зоны свабоднага гандлю з ЕС. А грамадзяне спадзяюцца, што шэнгенскія візы для іх будуць цалкам адмененыя.



Мадэрнізаваныя цягнікі выглядаюць па-еўрапейску, вось толькі не едуць.

### Лідар па рэформах

Яшчэ некалькі месяцаў таму еўракамісар па пытаннях палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле заявіў, што Малдова — лідар Усходняга партнёрства па выніках праведзеных рэформаў. А значыцца, кіруючыся прынцыпамі Еўрасаюза, і лідарам па аб'ёме фінансавай дапамогі. «З 2010 да 2013 толькі ў выглядзе грантаў у Малдову трапіла 550 мільёнаў еўра», — заявіў кіраўнік дэлегацыі Еўрасаюза Дзірк Шубель. І гэта без уліку крэдытаў і грошай фондаў. На што пайшлі сродкі і ці прынясуць яны Малдове карысць?

«Еўрасаюз і ЗША «падкармліваюць» Малдову ад часу атрымання незалежнасці. Гаворка ідзе пра мільярды еўра. Гэта і дапамога недзяржаўным арганізацыям, і спонсарства рэформаў, і грошы на інфраструктурныя праекты, — тлумачыць палітолаг Аляксандр Мэлуш. — Працоўная сіла ў Малдове танная, тэрыторыя маленькая, у параўнанні з тымі ж Беларуссю і Украінай. За гэтыя грошы можна было ўсю краіну перабудаваць».

### Малдаўскае бездарожжа

Расія, прадаючы Беларусі танныя нафту і газ, дае грошы на эканоміку ў цэлым. Еўрапейцы ж выдзяляюць сродкі на канкрэтныя мэты.

Напрыклад, Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця рэалізуе ў Малдове 99 праектаў агульным коштам 1,6 мільярда еўра. Апошняя заключаная дамова — будаўніцтва завода па вытворчасці электракабеляў для аўтамабіляў. Гэта крэдытныя грошы, якія выдаюцца пад нізкі працэнт. У залежнасці ад праекта стаўка вар'іруецца ад 1,5 да 5% гадавых.

Большасць агульнага аб'ёму фінансавання забірае дарожная інфраструктура. Яе развіццё ў Малдове застаецца на катастрафічным узроўні. Што казаць, калі шлях на чыгунцы ад Кішынёва да Бухарэста займае больш за 10 гадзін! І гэта без уліку стаянкі на прыпынках, праходжання мяжы і замены колаў на еўрапейскія. Для параўнання, такую ж адлегласць — 430 км — ад Брэста да Барысава беларуская чыгунка пераадольвае за пяць гадзін чыстай дарогі. Нядзіва, што напаўпусты чыгуначны вакзал Кішынёва прымае за дзень усяго па шэсць-сем цягнікоў.

**У 2011 мэрыя Кішынёва на еўрапейскія грошы набыла больш за 100 тралейбусаў «Белкамунмаша»**

З дапамогай еўрапейцаў пановаму паедзе ўвесь транспарт. На будаўніцтва новых дарог і аднаўленне старых участкаў выдаткоўваецца 315 мільёнаў еўра, яшчэ 50 мільёнаў еўра — на мадэрнізацыю чыгуначнай інфраструктуры.

### Не едзе, затое новы

Зрэшты, правальныя праекты не рэдкасць і для Малдовы. Адным з прыкладаў стала мадэрнізацыя дызельных цягнікоў, якія засталіся ў краіне яшчэ ад савецкіх часоў. Купляць новыя саставы было задорага, таму даручылі румынам абнавіць старыя. Тыя ўзялі па 2,5 мільёна еўра за мадэрнізацыю кожнага. Вонкава саставы насамрэч выглядаюць як новыя. А вось унутры... «Раней, да абнаўлення, яны хоць неяк ездзілі, — чартыхаецца супрацоўніца вакзала. — А гэтыя праз месяц пачалі сталі ламацца і цяпер стаяць усе па чарзе на рамонце. Ды і саляркі жаруць столькі ж, як раней... Пакралі грошы». Цяпер кіраўніцтва чыгункі патрабуе кампенсацыю ад былога міністра транспарту, які ў свой час падпісаў сумніўны кантракт.

### Карупцыя на антыкарупцыйнай рэформе

Пераход малдаўскага заканадаўства на стандарты Еўрасаюза перадусім рабіўся за грошы самой жа Еўропы. Напрыклад, некалькі месяцаў таму Малдове было пабяцана 60 мільёнаў еўра на рэформу пракуратуры, паліцыі і цэнтра па барацьбе з карупцыяй. «Частка грошай губляецца пры праходзе праз бюракратычныя перашкоды. Напрыклад, сродкі выдаткоўваюцца на кансультацыі службоўцаў ці сілавікоў еўрапейскімі спецыялістамі. У выніку ў еўрапейцаў грошы і застаюцца. Ну, і ў самой краіне мала які праект абыходзіцца без карупцыі. Гэта ўспрымаецца малдаванамі як нармальны атрыбут дзяльбы еўрапейскага пірага», — прызнае Аляксандр Мэлуш.

Аднак многія рэформы даходзяць і да простых людзей. З дапамогай Еўрасаюза па ўсёй краіне былі абсталяваныя новай тэхнікай каля 80 паліклінік і бальніц. А замест бясплатнай медыцыны тым часам з'явілася страхавая — спроба частковага самаакупання.

### Імпартнае даражэйшае за сваё

Малдова спрадвеку лічылася аграрнай краінай. У сельскай гаспадарцы ўлады дагэтуль бачаць галоўны экспартны патэнцыял краіны. Аднак на рынку Еўрасаюза малдаўская прадукцыя ў цяперашнім выглядзе пакуль што неканкурэнтаздольная. «Я магу набыць якаснае мясцовае малако, але яно будзе нават даражэйшым за імпартнае, — абураецца Павел, дырэктар дробнага кішынёўскага рэстарана. — Урэшце я і закупляю малдаўскае, але толькі таму, што фермерствам займаецца сваяк».

На субсідаванне фермерскіх гаспадарак у Малдове цяпер траціцца каля 30 мільёнаў еўра штогод — каля 20 еўра на гектар за год. Фермеры, якія праз прыродныя з'явы атрымалі страты, могуць разлічваць на ўдвая большую субсідыю.

«Малдаўскія фермеры пакуль не гатовыя да зоны свабоднага гандлю. Для гэтага нам трэба мадэрнізаваць сельскую гаспадарку», — кажа старшыня Асацыяцыі сельскагаспадарчых вытворцаў Аляксандр Слухар. Аднак ён прызнае, што развіццё галіны можа адбыцца толькі за кошт Еўропы. У чаканні дадатковай дапамогі малдаўскія фермеры адмовіліся далучацца да акцый пратэсту камуністаў, якія выступаюць супраць інтэграцыі з Еўрасаюзам.

**Ягор Марціновіч, Кішынёў — Мінск**

# Бакіеў будуецца побач з новым катэджам Пракаповіча?

Дом беглага кіргізскага прэзідэнта **знайшлі ў Драздах.**

Беглы прэзідэнт Кыргызстана Курманбек Бакіеў жыве ў Беларусі ўжо чацвёрты год. За гэты час ён паспеў атрымаць палітычны прытулак і нават беларускі пашпарт. А вось на радзіме Бакіеву пагражае турма. Яго прызналі вінаватым у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі і арганізацыі забойстваў. Былога прэзідэнта завочна асудзілі на 24 гады зняволення ва ўмовах строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Аднак, згубіўшы кіргізскую маёмасць, Курманбек Бакіеў набыў беларускую. Як стала вядома «Народнай волі», уцякач будуе дом на ўскрайку Мінска, побач з «Мінск-Арэнай» і элітным раёнам Драздоў. «Для Бакіева будуем. Гаспадар прыязджае з аховай, але рэдка», — прызналіся журналістам рабочыя.

Загадкавы дом знаходзіцца ў катэджным пасёлку на вуліцы Вілейскай. Дакладнага адраса ён пакуль не мае, рэгістрацыю ў кадастравым агенцтве таксама не праходзіў. А рашэнні Мінгарвыканкама, паводле якіх грамадзянам выдзяляюцца ўчасткі для будаўніцтва, у адкрытым доступе не знаходзяцца.


Праекты дамоў Пракаповіча і Калавура на Вілейскай аднолькавыя.

### Пасёлак Нацбанка

Вуліца Вілейская пачала забудоўвацца дзесяць гадоў таму. Тады гэтая зямля яшчэ не ўваходзіла ў межы Мінска. З дзясятак прэстыжных участкаў пад будаўніцтва раздаваў Ждановіцкі сельсавет. Менш за 500 метраў да вадасховішча, непадалёку праспект Пераможцаў, карацей, ідылістычны вясковы лад жыцця ўнутры горада. Зрэшты, раней гэта і была вёска. Участкі са старымі хатамі на суседніх вуліцах тут прадаюць за $500 тысяч. Ну, а за новыя дамы можна папрасіць і да $1 мільёна.


Так выглядае будоўля Бакіева з участка Пракаповіча.

Другое жыццё вуліца Вілейская (тады ўжо тэрыторыя Мінска) атрымала шэсць гадоў таму. 31 мая 2007 Мінгарвыканкам прымае рашэнне №1174 «Аб прадастаўленні зямельных участкаў для будаўніцтва і абслугоўвання жылых дамоў і дазволе праўядзення праектна-вышукальніцкіх прац». Паводле яго, зямлю выдалі семярым дзяржаўным служачым. Тагачаснаму старшыні Нацбанка Пятру Пракаповічу — 0,15 га. А ўсе ягоныя намеснікі — Павел Калавур, Юрый Алымаў, Мікалай Лузгін, Уладзімір Сянько, Мікалай Кадушка і Васіль Мацюшэўскі — атрымалі па 0,11 га.

Умовы выдзялення ўчасткаў невядомыя. Аднак сумнеўна, што гэта быў аўкцыён з роўным доступам усіх ахвотных.

Цяпер банкіры жывуць уздоўж Вілейскай (крайні дом Мацюшэўскага быў аднесены да Ржавецкага завулка) плячо да пляча. Адметна, што ў Нацбанку больш не працуе ніводзін з іх.

Калавур кіруе банкам «БелВЭБ», дзе ягоным намеснікам стаў Лузгін. Мацюшэўскі ўзначаліў «БПС-Сбербанк». Менавіта з гэтым банкам чуткі звязвалі новую працу Уладзіміра Сянько.

### Самы запатрабаваны чыноўнік

На павышэнне пайшоў толькі Пятро Пракаповіч, які стаў віцэ-прэм'ерам. Апроч таго, 71-гадовы будаўнік уваходзіць ва ўрадавую атэстацыйную камісію, міжведамасную раду па дзяржаўнай статыстыцы, камісію па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння... Агулам можна налічыць пад два дзясяткі намінальных і ганаровых пасадаў. Але абсалютная большасць з іх, як кажуць, на «грамадскіх пачатках».

Заробак старшыні Нацбанка, паводле словаў цяперашняй галоўнай банкіркі Надзеі Ермаковай, цяпер дарос да $2 тысяч. Але раней ён быў значна меншым. Заробку чыноўніка ў Беларусі не хапіла б, каб набыць у элітным раёне зямлю па рынкавых цэнах і будаваць на ёй катэджы. Зрабіць кар'еру чыноўніка, атрымаць імя і сувязі, а пасля сысці на звышвысокія заробкі топ-менеджараў — шлях, які абралі суседзі Пракаповіча па Вілейскай.

### Двойчы жыхар Драздоў

Але Пракаповіч на тое і Герой Беларусі, што зрабіў фактычна неймавернае. Не сыходзячы з дзяржаўнай службы, ён умудрыўся ўвайсці ў раку двойчы — атрымаць адразу два элітныя ўчасткі, цана кожнага з якіх цяпер падбіраецца да двух мільёнаў даляраў.

У пачатку стагоддзя ён стаў паўнавартасным жыхаром чыноўніцкага пасёлка ў Драздах, узяўшы ад дзяржавы зямлю памерам 0,15 га ў водаахоўнай зоне Свіслачы.

Двухпавярховы жылы дом з падвалам і дзвюма тэрасамі агульнай плошчай 370 м² быў дабудаваны ў канцы 2004.

Пракаповіч не быў бы Пракаповічам, каб не папрасіў яшчэ зямлі, «на бульбу». І атрымаўтакі свае дадатковыя 670 м² у стагадовую арэнду. Спачатку за агарод у Драздах Пракаповіч-дачнік плаціў $30 у эквіваленце за год. Пасля некалькіх дэвальвацый, правядзеных Пракаповічам-банкірам, гадавая плата зменшылася да $7 за год...

**Пятро Пракаповіч**

Нар. у 1942 у вёсцы Казлы Пружанскага раёна. Закончыў Днепрапятроўскі інжынерна-будаўнічы інстытут (1966). Працаваў на цаліне. У 1976—1996 — галоўны інжынер, а пасля гендырэктар «Брэстаблсельбуда». Дэпутат Вярхоўнага Савета (1990—1995). У 1996—1998 — першы віцэ-прэм'ер, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, у 1998—2011 — кіраўнік Нацбанка, у 2012—2013 — памочнік Аляксандра Лукашэнкі. Ад 2013 — віцэ-прэм'ер. Герой Беларусі.

Але нічога сабе — усё дзецям. Цяпер у катэджы па суседстве з Віктарам Шэйманам жыве сын Пракаповіча Аляксандр.

А сам Пятро Пракаповіч засяліўся ў хату на Вілейскай — цагляны двухпавярховік з халоднай прыбудовай, дзвюма тэрасамі, падвалам і летняй кухняй.

Дарэчы, палову катэджа ён пару тыдняў таму перапісаў на дачку Людмілу. Гэты дом больш прасторны, чым у Драздах, ягоная агульная плошча 500 м².

Ашчадлівы чалавек ашчадлівы ва ўсім. Пракаповіч вырашыў не пераплачваць за архітэктурны праект. Калі паглядзець на фасады катэджаў банкіраў на Вілейскай, бачна, што дамы Пракаповіча і Калавура... аднолькавыя. Адрозніваецца толькі афарбоўка. А ўсё астатняе — ад плота да парэнчаў на тэрасе другога паверха — такое самае.

Вокны катэджа Пракаповіча выходзяць якраз на будоўлю Бакіева. Кіргізскі інжынер, а пасля палітык, ужо засвоіў жыццёвы ўрок. Ніякая ўлада не гарантуе, што пасля прыходу канкурэнтаў не давядзецца ўцякаць за 7 тысяч кіламетраў, пакідаючы на радзіме шматлікія маёнткі, а пасля хавацца ад сваіх землякоў.

**Ягор Марціновіч. Фота аўтара.**


«Тут жывуць кіргізы», — кажуць жыхары Раўбічаў.

**Сляды Бакіева**

Раней былога кіргізскага прэзідэнта бачылі ў Раўбічах, вёсцы з гарналыжным курортам пад Мінскам. Нібыта тут набыў катэдж адзін з сыноў Бакіева.

У Раўбічах мясцовыя жыхары ўказалі на адзін з будынкаў: маўляў, менавіта ў гэтым доме пасяліліся кіргізы.

Гэты катэдж адзін з самых вялікіх у вёсцы. Калі глядзець па спадарожнікавай карце, то ўчастак займае столькі ж месца, як чатыры суседнія. За плотам можна ўбачыць нешта накшталт мусульманскай «капліцы». На шкло вакна на другім паверсе прыклееныя выявы, падобныя да Дзеда Мароза і Снягуркі. Вось толькі шапка ў дзядулі нейкая занадта выцягнутая, высокая. Карацей, небеларуская. Гляджу ў інтэрнэце — прыблізна так выглядае «ак калпак», нацыянальная кіргізская шапка. Зрэшты, такое назіранне можна спісаць і на багатую фантазію.

Каму ж належыць катэдж (глядзі фота)? На званок у дзверы адказвае малады мужчына. «Ці магчыма пагаварыць з Курманбекам Саліевічам?» — «Напэўна, вы нешта пераблыталі».

Кадастравае агенцтва тым часам адказвае, што інфармацыя пра катэдж у нацыянальным рэестры… адсутнічае. Усе суседнія дамы ёсць — а гэтага чамусьці няма.

# 10 udaraў цаглінай па галаве

Жорсткае забойства ўскалыхнула Бабруйск.

21-гадовая Яня знікла тры тыдні таму: не вярнулася своечасова дадому, бацькі адразу занепакоіліся. Спачатку дачку шукалі самі, а затым далучылася міліцыя.

Дзяўчыну знайшлі нежывой толькі 3 снежня ў закінутым прамысловым будынку ў Бабруйску. Тое, што давялося ўбачыць родным Яні, страшна нават уявіць. Нібыта яна, але дакладна адразу і не скажаш: твару ў дзяўчыны фактычна не было.

Прычынай смерці стала траўма галавы. Гэта быў не проста ўдар, а жорсткае забойства: мноста пераломаў касцей чэрапа. Мяккія тканкі галавы былі з'едзены сабакамі, а раскіданыя косці абгрызены. Галаву разбілі не менш як дзесяццю ўдарамі цаглінай. Пазнаць дзяўчыну змаглі толькі па аддзенні ды іншых прыкметах.

«Выдатны чалавек. Ціхая, не надта гаваркая, — успамінае Яню аднакласнік. — Сарамлівай дзяўчынай была, але я знаходзіў з ёй агульную мову. Прынамсі такой была, калі заканчвалі школу. Пасля мы рэдка бачыліся. Але не думаю, што яна магла надта змяніцца — цудоўная дзяўчына. Іншага і сказаць не магу, нават не верыцца, што такі чалавек камусьці мог замінаць. Наколькі ведаю, яна гандлявала чымсьці на рынку».

**Зноў 16-гадовы**

Юнака асудзілі на дзевяць гадоў калоніі за згвалтаванне трох дзяўчатак: сямі, дванаццаці і трынаццаці гадоў. Бацькі хлопца выхоўвалі трынаццаць дзяўчынак (сацыяльных сірот) у дзіцячым доме сямейнага тыпу ў в. Казлоўка Светлагорскага раёна. Бацьку затрымалі вясной, калі адна з дзяўчанак зацяжарыла. Высветлілася, што ён гвалтаваў і іншых выхаванцаў. Сын-падлетак віну прызнаў часткова, але абскарджваць рашэнне суддзі не стаў.

Суд над 43-гадовым бацькам яшчэ працягваецца.


ФОТА З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

Вусцішна становіцца, калі даведваешся пра асобу затрыманага. Гэта 16-гадовы юнак, раней двойчы судзімы за крадзяжы, навучэнец аднаго з бабруйскіх ліцэяў. Чым сарамлівая дзяўчына магла выклікаць такую агрэсію? Не вядома. Хлопец не дае паказанні, як паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці Аксана Салянюк. «Пакольки ён непаўналетні, допыты павінны адбывацца ў прысутнасці адваката і кагосьці са сваякоў. Але пры родных хлопец адмаўляецца гаварыць». Але Салянюк адзначыла, што дастаткова падстаў указвае на датычнасць хлопца да забойства. Між іншым, яму пакуль не прад'яўлена абвінавачванне: ён знаходзіцца ў статусе затрыманага.

Знаёмыя як дзяўчыны, так і затрыманага мала што ведаюць пра гэтую дзіўную справу. Але вядома, што Яня пазнаёмілася з юнаком вечарам перад знікненнем.

Расказваюць, што хлопец толькі вясной вызваліўся пасля адседкі. Летам ён трапіў у гісторыю са згвалтаваннем. Але ягоную датычнасць не даказалі — адпусцілі.

Знаёмы хлопца Макс кажа, што забіў «не ён, ён даўно выправіўся». Але не хоча расказваць нейкія падрабязнасці: «Гэта нічога не зменіць».

Нягледзячы на размовы ў Бабруйску, што юнак калі і мае дачыненне, то не адзін дзейнічаў, затрыманы толькі ён. За такое жорсткае забойства яму смяротны прысуд не пагражае: у Беларусі непаўналетніх не расстрэльваюць. Але за краты давядзецца вярнуцца на працяглы тэрмін, калі дакажуць ягоную віну.

**Кастусь Матушыч**

# Тры машыны і чатыры смерці

Жудасная аварыя пад Радашковічамі.

Чатыры чалавекі загінулі 9 снежня ў ДТЗ у Маладзечанскім раёне.

Аварыя адбылася раніцай недалёка ад вёскі Красоўшчына. Сутыкнуліся два легкавыя аўтамабілі «Сітраэн-Ксантыя» і «Лянча-Лібра», а таксама грузавы «Мерсэдэс».

Гэта складаны ўчастак дарогі на трасе Маладзечна-Мінск — вузкі, узгорысты і са шматлікімі заваротамі. Тут адбываецца шмат аварый.

У момант ДТЗ у «Сітраэне» знаходзіліся тры чалавекі. Выжыў толькі адзін пасажыр — ён дастаўлены ў Маладзечанскую цэнтральную раённую бальніцу. У аўтамабілі «Лянча» знаходзіліся двое, выжыць не ўдалося нікому.

Вядома, што кіроўца «Сітраэна» — 30-гадовы мужчына. Ён з пасажырамі ехаў на працу ў Заслаўе.

Крымінальную справу завялі за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць. Прычыны здарэння і ступень віны кожнага кіроўцы высвятляе следчая група.

**СГ**



Ад «Лянчы» засталася груда металу.
HTTP://MCHS.GOV.BY

**Вышук**



**Дзе ты, хлопец?**
18-гадовы студэнт Віцебскага вышэйшага каледжа сувязі **Арцём Сушко** не вярнуўся дадому пасля сустрэчы з сябрам уначы на 29 лістапада. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, звяртайцеся на (033) 666-68-56.



**Хаваецца ад аліментаў**
27-гадовага **Уладзіміра Папянкова** з Ваўкавыскага раёна шукаюць за ўхіленне ад выплаты грошай на ўтрыманне непаўналетніх дзяцей. Прыкметы: рост 170-180 см, вочы карыя, валасы цёмныя, кароткія. Хто ведае месцазнаходжанне Папянкова, звяртайцеся на (01512) 7-51-10.

# У цэнтры скандалу — рэктар галоўнага інстытута Міністэрства гандлю

Раскрыта схема фіктыўнага працаўладкавання.

WWW.GIPKP.COM/

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да рэктара Дзяржаўнага інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіраўнічых работнікаў і спецыялістаў Міністэрства гандлю Наталлі Каралёвай. Як паведамілі ў Следчым камітэце, жанчыне інкрымінуецца крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў буйным памеры. Паводле папярэдніх дадзеных, фігуруе сума ў 35 мільёнаў рублёў. Для кра-дзяжу была выкарыстаная схема фіктыўнага працаўладкавання, якая апошнім часам стала вельмі папулярнай у дзяржустановах.

Так, паводле дадзеных следства, Каралёва ўладкавала на пасаду спецыяліста па маркетынгу сваю знаёмую, якая лічылася на ёй з ліпеня 2011 па верасень 2013. Аднак увесь гэты час жанчына на працы не з'яўлялася і свае працоўныя абавязкі не выконвала. Пры гэтым ёй спраўна налічваўся заробак, які, лічаць следчыя, рэктар прысвойвала сабе.

Пад пільнай увагай следчых аказалася ўся праца Наталлі Каралёвай на пасадзе рэктара. Цяпер ёй пагражае дзесяць гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

**Паводле «Ежедневніка»**

## Сцісла

**Школьнікі затрымалі злодзея**

Чацвёра кобрынскіх падлеткаў гулялі каля рынку, калі сталі сведкамі крадзяжу. Дарослы скраў куртку і пабег. Хлопцы не спалохаліся і з крыкамі кінуліся ў пагоню. Адзін з іх патэлефанаваў у міліцыю. Зламыснік забег у тупік, куртку выкінуў, а сам схаваўся ў падвале. Школьнікі дачакаліся міліцыянтаў, а тыя затрымалі злодзея.

**Зарэзалі таксіста**

Труп 34-гадовага таксіста знайшлі ў Гомелі ў нядзелю ўначы. На целе налічылі дзесяць колата-рэзаных ран. Аўтамабіль знаходзіўся за кіламетр ад уладальніка. Заведзена крымінальная справа.

**4-гадовы збег ад п'яных бацькоў**

Здарэнне адбылося ў в. Калодчына на Вілейшчыне. Хлопчык хаваўся ў полі ад бацькоў, якія ў гэты час пілі гарэлку. Яго заўважылі вяскоўцы і выклікалі міліцыю. Дзіця забралі ў прытулак, а нядбайным бацькам пагражае крымінальная справа.

**Забіла дзіця**

24-гадовая дзяўчына задушыла 6-месячнае дзіця, а сама скінулася з чыгуначнага моста ў Баранавічах. Знаходзіцца ў рэанімацыі.

**Прымусілі выкапаць сабе магілу**

Два гарадзенцы легальна выдавалі пазыкі пад высокія працэнты, а даўгі «выбівалі» сілай. За два мільёны 21-гадовага хлопца яны вывезлі на могілкі, пагражалі забойствам, прымусілі капаць сабе магілу. Калі грошай не дачакаліся, спрабавалі аформіць на даўжніка ў крэдыт куплю дарагой бытавой тэхнікі, прымушалі працаваць на іх. Затрыманыя.

**Патанулі дзеці**

Другакласнікі хацелі пакоўзацца на падмерзлай пратоцы ў Гомелі. Але лёд аказаўся слабым: трое сяброў праваліліся ў ваду. Ратаваць іх кінуліся мінакі. Выцягнуць на бераг паспелі толькі аднаго хлопчыка, астатнія патанулі.

**КМ**

# **Нэльсан Мандэла:** Правілы жыцця

Былога прэзідэнта Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, нобелеўскага лаўрэата міра **не стала на 96-м годзе жыцця**. Мандэла быў тым, хто спрычыніўся да ўсталявання ў свеце расавай роўнасці.

• Адзін чалавек сказаў пра мяне: «Пры нараджэнні ён атрымаў імя Роліхлахла — той, хто трасе вецце, потым ён стаў Нэльсанам Мандэлам і скалануў свет». Мне не падабаюцца спробы рабіць з мяне напаўбога. Я хачу, каб мяне ведалі як Мандэлу, чалавека са слабасцямі.
• У маёй краіне вы спачатку адпраўляецеся ў турму, а потым становіцеся прэзідэнтам.
• Я цвёрда засвоіў, што адвага — гэта не адсутнасць страху, а перамога над ім. Адважны чалавек — гэта не той, хто не адчувае страху, а той, хто з ім змагаецца.
• Многія рэчы здаюцца невыканальнымі да таго часу, пакуль іх не зробіш.
• Дзіўная прыгажосць афрыканскай музыкі заключаецца ў тым, што яна гучыць радасна, нават калі расказвае табе сумную гісторыю. Ты можаш быць бедны, можаш жыць у доме, пабудаваным са скрынак, ты мог толькі што страціць працу, але музыка заўсёды пакідае надзею.
• Не так ужо складана змяніць грамадства — складана змяніць сябе.
• Я ўдзячны тым 27 гадам, якія я правёў у турме, таму што гэта дало мне магчымасць засяродзіцца. З таго часу, як я выйшаў на волю, я гэтую магчымасць страціў.
• Свабода не можа быць частковай.
• У турме я любіў працаваць са смеццем. Часам там трапляліся абрыўкі газет. У турме нам нельга было газет, так што я браў гэтыя абрыўкі, чысціў іх, а вечарам ціха чытаў у камеры. Наўрад ці калі-небудзь я так цаніў прэсу.
• Складанасці і нягоды руйнуюць адных людзей, але ствараюць іншых.
• Ніхто не нараджаецца з нянавісцю да іншага чалавека з-за колеру скуры, паходжання або рэлігіі. Людзі вучацца ненавідзець, і калі яны могуць навучыцца ненавідзець, трэба імкнуцца вучыць іх любові, таму што любоў нашмат бліжэйшая чалавечаму сэрцу.
• Мы павінны выкарыстоўваць час мудра і памятаць: справядлівую справу можна пачаць у любую хвіліну.
• Гаворачы з чалавекам на той мове, якую ён разумее, ты размаўляеш з яго галавой. Калі ты размаўляеш з чалавекам на яго роднай мове, ты размаўляеш з яго сэрцам.
• Ні разу не зваліцца — не самая вялікая заслуга ў жыцці. Галоўнае — кожны раз падымацца.
• Учора мяне называлі тэрарыстам, а калі я выйшаў з турмы, многія людзі, у тым ліку ворагі, прызналі мяне. Так я звычайна кажу тым, хто расказвае, што людзі, якія змагаюцца за незалежнасць у іх краінах, — тэрарысты. Вось што я скажу: хто і каго вінаваціць у тэрарызме, залежыць ад таго, чый бок перамагае.
• Светлая галава і светлае сэрца заўсёды складаюць грозную камбінацыю. А калі ты дадаеш да гэтага вострыя язык або аловак, атрымліваецца нешта вельмі грымучае.
• Я не магу забыць, але я магу даравацъ.
• Я люблю рэгулярныя медыцынскія праверкі. Звычайна дактары кажуць мне: «Містар Мандэла, на гэтым тыдні вы не памрэце!»



# Мэбля Радзівілаў вяртаецца ў Нясвіж

Калісьці ў Нясвіжскім замку захоўваліся багацці, якія Радзівілы збіралі стагоддзямі. У 1939 годзе пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР замак перадалі пад Дом адпачынку НКУС. А радзівілаўскія каштоўнасці пачалі разыходзіцца па краіне. Бібліятэку і архіў перадалі ў Акадэмію навук, калекцыю жывапісу — у цяперашні Мастацкі музей, мэблю і два вялікія люстэркі — у Купалаўскі тэатр. Пасля рэстаўрацыі замка супрацоўнікі музея нарэшце пачалі займацца вяртаннем радзівілаўскай спадчыны. Да гэтага абавязваў і статус — знаходжанне ў спісе сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Адной з задач стала вяртанне ў Нясвіж спальнага гарнітура, які належаў князю Канстанціну Радзівілу. Нашчадак першага Нясвіжскага ардыната Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі ў сёмым калене, ён узяў шлюб з Луізай Бланк, дачкой Франсуа Бланка — заснавальніка казіно ў Манака, а пазней і Монтэ-Карла.



**Шафа для пасцельнай бялізны.**

Свой гарнітур Радзівіл набыў у расійскай імператарскай сям'і для ўласнай вілы Des Dunes у Канах. Першапачаткова гарнітур складаўся як мінімум з 17 прадметаў мэблі (да нашага часу дайшло 15). Прадметы дэкараваныя разьбой і роспісам. А асобныя рэчы ўпрыгожвае фамільны герб Радзівілаў.

Стыль Людовіка XVI інтэрпрэтуецца як праява неакласіцызму, якому былі ўласцівыя простыя формы, антычныя матывы ў мэблі і арнаменце, а таксама пастаральная тэматыка (каласкі, садавіна, кветкі).

Дарэчы, бабуляй Людовіка была Марыя Ляшчынская, дачка вялікага князя ВКЛ Станіслава Ляшчынскага.

Супрацоўнікі музея-запаведніка адмовіліся паведаміць, колькі давялося заплаціць за гарнітур. Застаецца арыентавацца на лічбы чатырохгадовай даўніны. Тады гарнітур каштаваў 180 тысяч даляраў. Са страхоўкай, пошлінай і транспартаваннем сума складала крыху больш чым 200 тысяч даляраў.

Выстава музейнага здабытку адкрыецца 12 снежня а 16-й гадзіне ў выставачнай зале Палацавага ансамбля. Яна будзе працаваць да лютага 2014 года. Пасля гарнітур размесціцца ў інтэр'ерах палаца.

**Глеб Кандрацьеў**

**Бібліятэка**




### Беларускі раман Наталкі Бабінай выдалі ў Лондане

Кніга «Рыбін горад», якая ўпершыню пабачыла свет у серыі «Кнігарня «Наша Ніва», выйшла па-англійску ў друкаваным і электронным выглядзе пад назвай Down Among The Fishes у лонданскім выдавецтве Glagoslav. Тут таксама выходзілі пераклады «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча і «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча.

**Анонс**

# Агінскі заспявае па-беларуску

12 і 14 снежня ў **Маладзечне прэм'ера** беларускамоўнай оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт».

У гарадскім Палацы культуры з 2007 года працуе Маладзечанскі маладзёжны музычны народны тэатр. Дагэтуль на яго рахунку былі чатыры оперы — «Іаланта», «Яўгеній Анегін», «Травіята» і «Кармэн». Але музычны кіраўнік і галоўны дырыжор калектыву Рыгор Сарока з часоў першай прэм'еры марыў пра нацыянальную оперу. Тры гады таму ён замовіў кампазітару Алегу Залётнеу твор пра Міхала Клеафаса Агінскага.

Лейтматыў оперы — туга па Вялікім Княстве Літоўскім. Агінскі спрыша змагаўся за існаванне гэтай дзяржавы ў складзе Рэчы Паспалітай, потым марна спадзяваўся яе адрадзіць. Дзея пачынаецца з таго, што Міхал Клеафас збіраецца з'язджаць у Італію і перад эміграцыяй збірае ў Залессі сваіх сяброў. «Дзе ты, мая Радзіма? З кім ты, мая Айчына?» — спявае Агінскі ў фінальнай арыі.

Маладзечанцы зрабілі стаўку на мясцовых салістаў, якія нарадзіліся або вучыліся ў горадзе. Асобныя выканаўцы прыедуць на прэм'еру з іншых гарадоў. Напрыклад, Яўгенія Курбатава, якая выконвае партыю італьянкі Марыі, жонкі Агінскага, з Масквы.

Спонсарамі пастаноўкі стала дзяржава (грант Мінскага аблвыканкама склаў 100 мільёнаў рублёў), а таксама маладзечанскія прыватныя прадпрыемствы і арганізацыі. Кошт квіткоў на оперу знаходзіцца на ўзроўні сталічных тэатраў: 80 — 100 тысяч рублёў. Але варта ўлічваць, што ўсе папярэднія пастаноўкі ў Маладзечне паказваліся пасля прэм'еры лічаную колькасць разоў. Зрэшты сцэнічны лёс «Міхала Клеафаса» шмат у чым залежыць ад гледачоў.

**Дзяніс Марціновіч**



# Рэўнасць руйнуе каханне

85-гадовы акадэмік **Радзім Гарэцкі** дзеліцца сакрэтамі сямейнага шчасця і фізічнага здароўя.

У яго сям'і мужчыны былі доўгажыхарамі: калі і не пераступалі стагадовую мяжу, то былі блізкімі да гэтага.

**«Наша Ніва»: Радзім Гаўрылавіч, нават у такім паважным узросце Вы на працу ездзіце. Не можаце ад гэтага адмовіцца?**

**Радзім Гарэцкі:** Мне праца падабаецца. Важна ў пачатку выбраць тую прафесію, якая будзе цікавіць усё жыццё. На жаль, пражыць акадэміку нават на пенсію цяжкавата. Але грошы не галоўнае.

**«НН»: Ваш тата працаваў да апошняга, да 88 гадоў. Гэта сямейнае?**

**РГ:** У яго жыццё было цяжкое. Думаю, калі б яно было лепшым, то пажыў бы яшчэ.

А сакрэту ў гэтым няма. У нас добрыя гены. Мая мама, як мама і тата памерлі ў 93. Па бацькавай — дзед пражыў больш за 89 (памёр ад хваробы), а бабуля памерла раней — бо аперацыю ёй зрабілі. Але ў родзе былі і тыя, хто пражыў 100.

Гарэцкія заўсёды былі аптымістамі, жыццялюбамі. Важная рыса — добразычлівасць, каб не было злосці і зайздрасці. Усё гэта разам дапамагае доўга жыць і заставацца ў добрай форме. Мне добра яшчэ таму, што ў мяне ёсць ахоўніца — жонка Галіна Рыгораўна.

**«НН»: Як Вы пазнаёміліся з жонкай?**

РГ: На лыжах пад Мінскам. Яна ехала, я ехаў. У яе саскачыла лыжа — я дапамог. Затым зноў паехалі. Так і дакаталіся.

У нас вялікая розніца ва ўзросце — 20 гадоў. А нарадзіліся мы амаль у адзін дзень: яна — 5 снежня, я — 7. Мая бадзёрасць дазволіла пражыць разам столькі гадоў. Самае галоўнае ва ўзаемаадносінах — поўны давер. Рэўнасць руйнуе каханне. *(Да размовы далучаецца жонка акадэміка).*

**«НН»: Галіна Рыгораўна, можаце расказаць, як заляцаўся доктар геолага-мінералагічных навук?**

**Галіна Гарэцкая:** Прыгожа заляцаўся. Ён і цяпер такім застаўся.

**«НН»: Кветкі не толькі на 8 Сакавіка?**

**ГГ:** Так. Калі я засумую, ён спрабуе развесяліць. Станцуе, заспявае...

**РГ:** То прасвішчу песню. *(І Радзім Гаўрылавіч спачатку насвіствае, а затым зацягвае):*

...Ой спадабалася,
Ой спадабалася,
Мне тая дзеўчына.

Гэта, між іншым, любімая песня Янкі Брыля і Ніла Гілевіча. Мы часта яе спявалі разам.

**«НН»: Галіна Рыгораўна, наколькі муж гаспадарлівы? Усё-ткі акадэмік, думкамі, відаць, у іншых клопатах.**

**ГГ:** Вельмі гаспадарлівы. І калі пачынае нешта рабіць, то з навуковай дасканаласцю. Але я стараюся яго ад сямейных спраў адхіліць. Вы самі бачылі, у колькі ён прыходзіць з працы. Ён жа і дома працуе на два кабінеты. У адным пакоі навуковай працай займаецца, а ў другім — працуе на іншай ніве.

**РГ:** Ты ж ведаеш, што я напісаў некалькі кніг пра тату і дзядзьку. Я пішу яшчэ ўспаміны, эсэ. Называю іх «Жыццёвым меланжам». Да канца года павінна выйсці кніга.

**ГГ:** Ён і машынай сам кіруе да сёння.

**РГ:** У нас стары «Жыгуль» — 1984 года. Я за ім сам прыглядаю. Цяпер надта не езджаю: на лецішча ў асноўным. Адзіны мінус з машынай, як і са мной, кожны год трэба праходзіць тэхагляд.

### Мой сусед — Юрый Зісер

**«НН»: Дзе ў Вас лецішча?**

**РГ:** У Раўбічах. Гэта яшчэ пры Машэраве Акадэміі навук выдзелілі, пабудавалі невялікія катэджы. У нас чатыры соткі разам з домам: усё мініяцюрнае, але нам больш і не трэба. Я нават не хацеў гэтую дачу браць. Бо я часта выязджаў з палаткай. І казаў: «Навошта мне тая дача, калі ў мяне ўся Беларусь?» А сёння задаволены, што не адмовіўся.

У нас суседам быў вядомы спартовец Аляксандр Мядзведзь. Пасля ён прадаў лецішча. А цяпер наш сусед таксама вядомы — Юрый Зісер, удадальнік TUT.BY.

**«НН»: Абмяркоўваеце з уладальнікам інтэрнэт-партала навіны?**

**РГ:** Канечне, пагаворым пра жыццё, навуку, навіны. Але ён радзей за нас там бывае.

**«НН»: Лецішча ў Раўбічах, побач комплекс зімовага спорту. Сёння на лыжы яшчэ становіцеся?**

**РГ:** Гэтыя Раўбічы ў розных месцах. А на лыжах мы ездзілі да маіх 70 гадоў.

А калі я працаваў дырэктарам Інстытута геахіміі і геафізікі АН (1977-93), пабудаваў саўну ў інстытуце. І ў абедзенны перапынак я прабягаў некалькі колаў на лыжах, затым у лазню — усё хуценька. І зноў на працу. Са мной так некалькі чалавек бегала.

Ад дома бывала да Вячы на лыжах з маім вучнем хадзілі. А гэта кіламетраў 25 у адзін бок.

**ГГ:** А здаралася і да іcтытута ва Уруччы. Але тады ніякага ні Уручча-1, ні Уручча-2 не было — поле.

**РГ:** Таму ў мяне і жывата няма. Калі ў навукоўца вялікі жывот, кажуць: «Выдающийся учёный». Калі проста тоўсты: «Крупный учёный». А калі як я, лысы, — «Блестящий учёный». Гэта жарт.

**«НН»: На працы Вы такі ж вясёлы?**

**РГ:** Я заўсёды смяюся. Нават калі 16 гадоў быў дырэктарам інстытута, яшчэ 5 гадоў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук. Я шкадую, што столькі часу страціў. Мог бы больш кніг напісаць — гэта мне падабаецца.

І за час свайго дырэктарства я хіба толькі адну вымову даў. Нікога не лаяў. Пры Андропаве строга было — лавілі тых, хто спазняўся на працу. А я папярэджваў, што прыйду на пятнаццаць хвілін пазней. «Мне сорамна бачыць, калі вы спазняецеся», — казаў я. І гэта на людзей уплывала лепш, чым вымовы.

### Прамяняў Маскву на Мінск

**«НН»: Сям'я вымушана была шмат гадоў жыць па-за Беларуссю. Беларускую мову захоўвалі?**

**РГ:** З бацькам я амаль не жыў. Ён то ў турме, то ў камандзіроўках. Я жыў з мамай і яе бацькамі. Дзед і бабуля былі з Беластока, але рускамоўныя. І яны мяне выхоўвалі — я беларускай не ведаў. І толькі калі пачалі жыць разам з маці і бацькам у канцы вайны, я загаварыў па-беларуску.

У Беларусь упершыню пасля нараджэння я прыехаў у снежні 1971. І ўжо размаўляў па-беларуску. Але гэта была тая мова, блізкая да тарашкевіцы. Бацькі так размаўлялі.

У Беларусі, на жаль, людзі зусім мала карыстаюцца беларускай. Калі так далей пойдзе, праз некаторы час мы станем рускамоўнай Белай Руссю, якая без рэвалюцый далучыцца да Масковіі. Я спадзяюся, што адраджэнне вернецца. І цяпер галоўная надзея на моладзь.

**«НН»: Дарэчы, вы ў Беларусь пераехалі з Масквы, дзе ў Вас кар'ера складалася добра. Чаму ўсё прамянялі?**

**РГ:** Выдатна складвалася кар'ера. Усе імкнуліся ў Маскву, і на мяне глядзелі як на нейкага дзекабрыста. Я працаваў у Геалагічным інстытуце АН СССР. Я там стаў кандыдатам, доктарам навук, атрымаў у групе навукоўцаў Дзяржаўную прэмію СССР у 1969...

Мой бацька ўвесь час марыў вярнуцца ў Беларусь, а яго не пускалі. Нават калі яго рэабілітавалі ў 1958, то сюды прыехаць дазволілі толькі праз дзесяць гадоў. Ён хацеў, каб я пасля Маскоўскага нафтавага інстытута ў 1952 паехаў. І напісаў нават ліст у ЦК партыі (я пра гэта даведаўся пазней), каб мяне прынялі тут. Але адказалі, што няма магчымасці прыняць.

Можа, і добра, што бацька адразу пасля вайны не прыехаў у Беларусь, бо яго арыштавалі б зноў. А калі ён нарэшце пераехаў, і мне прапанаваў.

У Маскве ў мяне настолькі добрыя адносіны былі, што праз некаторы час мяне вылучылі кандыдатам у акадэмікі АН СССР. І сказалі, калі я вярнуся ў Маскву на пасаду дырэктара Геалагічнага інстытута, тады дакладна абяруць. Я не паехаў. А калі праз два гады ўсё-ткі абралі, нашы дзяржавы сталі незалежнымі. І я стаў замежным членам Расійскай акадэміі навук.

**ГГ:** І да сёння там шкадуюць, што Радзім Гаўрылавіч не прыехаў.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**



НАСТА ХРАПОВІЧ

**Сын рэпрэсаванага**

Радзім Гарэцкі — вучоны-геолаг, прафесар, акадэмік. Нарадзіўся 7 снежня 1928 у Менску. Бацьку рэпрэсавалі і выслалі з Беларусі. Выпускнік Маскоўскага нафтавага інстытута. Працаваў у Геалагічным інстытуце АН СССР. Узначальваў Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР. У кола яго навуковых інтарэсаў уваходзяць праблемы тэктонікі старажытных платформ, рэгіянальнай геалогіі, карысных выкапняў Беларусі. Атрымаў Дзяржпрэмію СССР за «Тэктанічную карту Еўразіі» (1969), Дзяржпрэмію БССР за «Тэктачнічную карту Беларусі» (1978).

Як грамадскі дзеяч узначальваў Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Займаецца папулярызацыяй спадчыны Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх.

Жанаты, мае дачку Вольгу.



Гаўрыла і Максім Гарэцкія.

**Двойчы асуджаны да расстрэлу**

Гаўрыла Гарэцкі (1900-1988) — геолаг, эканаміст. Малодшы брат пісьменніка Максіма Гарэцкага. Застаецца наймаладзейшым абраным акадэмікам у Беларусі — атрымаў званне ў 28 год.

У 1930 арыштаваны па сфабрыкаванай справе контррэвалюцыйнай арганізацыі. Асуджаны да расстрэлу, які замянілі высылкай. Вызвалены датэрмінова, зноў арыштаваны, зноў вызвалены. У 1938 асуджаны да расстрэлу. Вызвалены.

Геолагам-інжынерам працаваў на будоўлях буйных ГЭС, каналаў, вадасховішчаў. Рэабілітаваны, адноўлены ў званні акадэміка. Пасля вяртання ў Беларусь працаваў у Інстытуце геахіміі і геафізікі АН.

У сям'і было двое сыноў: Усяслаў (1924-2009) і Радзім.



«У маіх бацькоў было такое каханне, якога я ніколі больш не бачыў. Самае важнае, што ў іх было духоўнае адзінства. Яны проста не маглі адно без аднаго — і пісалі лісты. А бацька пастаянна быў то ў камандзіроўках, то сядзеў. І я сабраў іх лісты: іх тысячы. Частку апублікаваў у кнізе «Лісты жыцця і кахання» (Мінск, 2013)». Гаўрыла Гарэцкі і Ларыса Парфяновіч перад шлюбам, Масква, 1923.

# Тое, што даець вёска, не можа даць ні адзін мегаполіс свету!

**Лёс беларускай вёскі вачыма маладых: чаму вымірае і дзе шукаць паратунак?**

...Гадоў дзесяць таму, як толькі надыходзіла змяркание, з розных двароў невялікай вёскі чуліся падлеткавыя галасы «пайшлі на вёску!». Менавіта так збіралася моладзь у цэнтры, седзячы да трох гадзін ночы, а то і да самага ранку. Бясконцыя размовы, жарты, смех. Хапала людзей: і вясковых юнакоў, дзяўчатак і моладзі з горада, якая прыехала да бабуляў, дзядуляў ці проста «на лецішча»...

Цяпер па-іншаму.

Вёсачка апусцела. Хвілінаў за пяць можна палічыць колькасць двароў ды людзей, якія ў іх жывуць. Бабулі, дзядулі памерлі ад старасці, хто з'ехаў, у каго згарэла хата... Былыя дзяўчаты сталі жанчынамі, выйшлі замуж, нарадзілі дзетак і таксама з'ехалі. Школьнікі сталі студэнтамі і толькі зрэдку наведваюць родную вёску, юнакі пайшлі ў армію. Вёска пастарэла.

Яшчэ адна вялізная праблема, з якой сутыкаецца вёска і праз якую вымірае, — гэта п'янства. Сустрэць мужчыну, які зусім не ўжывае алкаголь, — складана, з жанчынамі крыху лягчэй, але ўсё ж. Ад чаго ж так: у вёсцы настолькі сумна, няма чым заняцца, што людзі шукаюць паратунак і «энергію для весялосці» ў кілішку таннага віна? Што можна адчуваць, гледзячы на маладога, калісьці сімпатычнага хлопца, які мог нармальна працаваць, ажаніцца з дзяўчынай, мець дзетак, але гэтага няма праз алкаголь!? Ён пасінелы, амаль штовечар п'яны і выглядае значна старэйшым за свой сапраўдны ўзрост. І ён такі не адзін. Так гіне моладзь, а разам з ёй і вёска.

Як ратавацца? Як данесці да людзей, што мы самі сябе вынішчаем, што не пакідаем выбару сваім дзецям?

Разгледзім наступны варыянт. Я чалавек, які заўсёды хочаў жыць у вёсцы, тут жа хоча гадаваць сваіх дзетак, сюды вярнуцца пасля заканчэння навучальнай установы ў горадзе. Але дзе мне працаваць? Самы аптымальны варыянт менавіта ў гэтай вёсцы — ісці на ферму. Яшчэ на якую-небудзь (якую?) пасаду ў адзіную бібліятэку, каторую наўрад ці ўжо хто наведвае. Яшчэ можна ездзіць працаваць у школу з суседняй вёскі. Калі дазваляе адукацыя — маладым настаўнікам, калі не — гардэробшчыцай або прыбіральшчыцай. Тады паўстае пытанне: дык мо ўсё ж на ферму — і зарплата большая, чым у маладых настаўнікаў, і нерваў менш.

Такая і атрымліваецца дылема. Звярнулася да моладзі, каб і яны сказалі свае слова, выказалі меркаванне наконт таго, чаму вымірае вёска і як яе ратаваць.

**Алесь**:

Вёска вымірае таму, што моладзь не вяртаецца і няма працы. Трэба даць грошай і магчымасць працаваць і зарабляць. А наогул — патрэбныя змены. Ратаваць, мабыць, позна. Трэба захаваць тое, што ёсць, збіраць фальклёрныя набыткі.

**Ганна:**

Вёску неабходна развіваць, каб яна была чымсьці цікавай для моладзі. Можна, напрыклад, турыстычныя комплексы рабіць. Гэта ж цікава — старыя бабулькі ў драўляных хатках і ўсё ў такім стылі. Гэта займальна для турыстаў, а для вёскі — прыбыткова.

**Кірыла**:

Добра прыраўняць зарплаты ў горадзе і ў вёсцы, напрыклад. Будзем спадзявацца, што беларуская вёска ніколі не памрэ, бо без вёскі наша беларуская культура таксама доўга не пражыве.

**Яўген**:

Як можна ратаваць вёску? Дзяржава павінна развіваць прыватную гаспадарку і фермерства. І купляць малако альбо мяса не толькі ў калгасаў, але і ў фермераў. Неабходны законы, ільготы для фермераў і маладых супрацоўнікаў, каб прыватнік мог працаваць у вёсцы, адчыняць крамы, нейкія установы і меў магчымасць не плаціць высокія падаткі. Будаваць школы, садкі, спартзалы, кафэ і гэтак далей, каб як мага больш утульна адчуваў сябе вясковец.

**Сяржук**:

Сённяшнія тэхнічныя сродкі дазваляюць весці сельскую гаспадарку малой колькасцю працоўных рук, таму густанаселенай беларуская вёска ўжо ніколі не стане. Як варыянт, самому з'ехаць жыць у вёску, гадаваць там дзетак, займець свіней, коней, качак, пчолак і г.д. Палі засеяць збожжам, гароднінай ці іншымі раслінамі, на якія ёсць попыт.

Усе ў адзін голас сцвярджаюць: няма працы, няма заробкаў, магчымасцяў. Але ж ад таго, што ў вёсцы няма як зімой хадзіць у басейн, а калі захочацца сярод ночы марожанага — у краму не сходзіш, вёску любіць не перастаеш! Не знікае і жаданне жыць тут і ўсё ж гадаваць сваіх дзетак сярод вясковых людзей, якія ведаюць, што такое сапраўдная праца. Каб яны, дзеткі, ведалі, што такое хамут, збожжа, што ўраджай збіраецца восенню, а садзіць цыбулю старыя людзі раяць восьмага мая.

Заўсёды застаецца надзея, што штосьці можа перамяніцца і будучае пакаленне беларусаў не стане суцэльнай гарадской масай. Бо тое, што даець вёска, не можа даць ні адзін мегаполіс свету!

**Адэлька Байцэвіч**

# Чаму моладзь не ідзе на настаўнікаў

Міністэрства адукацыі ці то збіраецца вырашыць, ці то вырашыла, што на педагагічныя спецыяльнасці абітурыенты з залатым медалём змогуць паступаць без экзаменаў.

Мне падаецца, што міністэрства ломіцца ў адчыненыя дзверы. Калі на гэтыя спецыяльнасці прымалі ці прымаюць людзей з 15-20 баламі па профільным прадмеце, асабліва такім, як матэматыка, фізіка, хімія, то ці можна сур'ёзна казаць, што гэта экзамен? Вядома ж, не. То бо такім чынам зраўняныя і людзі з добрымі ведамі, і няўмекі.

Сам я 35 гадоў адгараваў у школе і глыбока перакананы, што школьны настаўнік — ключавая постаць у грамадстве і школьная адукацыя — ключавая ў дзяржаве. Менавіта тут пачынаюцца лекары, будаўнікі, канструктары, слесары, афіцэры і кагэбісты, трактарысты і аграномы, дармаеды і шарлатаны, палітыкі і чынавенства. А ўжо ўнутры школьнай адукацыі найважнейшай ёсць пачатковая школа. Калі дзіця навучана добра чытаць, яксана гаварыць, акуратна і граматна пісаць, добра лічыць у памяці, то гэта выдатны грунт для ўсёй наступнай адукацыі.

Значная частка насельніцтва лічыць настаўнікаў лайдакамі і дармаедамі.

Здаецца, дзяржава згодная з гэтымі люмпенаўскімі меркаваннямі.

З уласнага досведу скажу, што праца настаўніка цяжкая, патрабуе сталай працы з уласнымі ведамі і вонкавай інфармацыяй і, беручы ўвогуле, гэта не надта жаночая прафесія. Гэта хутчэй мужчынская доля. Але ў нас жанкам можна ўсё: стаяць на пнеўмаперфаратары, варочаць рэйкі, заліваць асфальт, вучыць дзетак.

Савецкая ўлада ставілася да школы як да працягу агітпропу. Адпаведна, настаўнік быў дапаможным кадрам, які можна было выкарыстоўваць як хочаш і за якія хочаш сродкі. Савецкі настаўнік быў танны, дапаможна ідэйна-паслухмяны, шарачок. Зараз, азіраючыся назад, я магу ацаніць савецкае стаўленне да настаўніка як цынічны здзек. «Глядзіце, ён прыйшоў у школу, каб зарабляць грошы»,– крычаў на мяне рэдактар газеты «Чырвоны Кастрычнік» падчас «сяброўскай сустрэчы» ў іхнім райкаме.

Цяперашні прымітыўны рэжым у растаптанні настаўніка пайшоў шчэ далей. Ад вясковага настаўніка адабралі невялікую, але істотную льготу — бясплатнае паліва. Адабралі мікрадаплату на электрычнае святло.Па сутнасці, адбіраць болей няма чаго. Хіба што пенсію: яна мізэрная.

Застаючыся ў ідэалагічных аглоблях, школа і настаўнік апынуліся пад прэсінгам гэтак званай «ідэалагічнай вертыкалі». На настаўніка і школу ўскінутыя тыя праблемы, якія не можа, ці не здольны, ці не хоча вырашаць сам рэжым. У сістэме адукацыі пануе тэрор у дачыненні да настаўніц, бо рэдкі мужчына выжыве ў такіх умовах. Недарэчна казаць пра абаронную ролю прафсаюза: ён — адзін са стаўпоў дзяржавы, што на баку працадаўцы.

Заробак застаецца нізкім, псіхалагічны стрэс высокім. «У нас у школе сталінскія парадкі», — так ахарактарызавала школьную атмасферу калега.

Не лепей ацэньваюць школьныя парадкі і вучні. І гэта вельмі блага.

Канечне, можна спрабаваць прывабіць словамі «вышэйшая адукацыя» наіўную і энтузіястычную частку маладых людзей на педагагічныя прафесіі. Але што яны зробяць, калі пабачаць свой разліковы квіток і абвестку, што «патрэбен кладаўшчык з аплатай 6.000.000 руб»?

Я б параіў міністэрству лепей знайсці прыдумку і абавязаць малады настаўнікаў адпрацоўваць сваю адукацыю 100 гадоў. За вопратку і чаропку ідэалагічнай поліўкі.

Гэтак у нас будуць сталыя кадры, школы пазбавяцца «пераменнага складу» і запануе такая жаданая «стабільнасць». Ура!

**Мікалай Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

# Трэба вярнуць нашы скарбы!

За стагоддзі гісторыі наша Радзіма была рабавана шмат разоў. Культурныя каштоўнасці, якія маюць непасрэдные дачыненне да Беларусі, можна знайсці ў Расеі, Літве, Польшчы, нават у ЗША. Усе гэтыя каштоўнасці не проста кнігі, карціны — гэта дух нашага таленавітага народа! Таму зараз мы павінны зрабіць усе магчымае, каб вярнуць гэтыя скарбы.

Музей гісторыі Магілёва мае магчымасць выкупіць у прыватных калекцыянераў фрагмент Біібліі Францыска Скарыны і «Апостал» Спірыдона Собаля. Гэтыя прадметы маюць выключнае значэнне для нацыянальнай спадчыны.

Я ўпэўнены, што шмат людзей адгукнецца! Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці па спасылцы: ratusha-mogilev.com/by-by/museynie-zanyatiya-mogilev.htm

**Кірыл Лойка**

**Пра Майдан**

## Усё будзе добра

Усчалі вэрхал, быццам дзеці!
І крытык — быццам партызан:
— Гамон! Правалены ўсе сеці,
І заўтра скончыцца Майдан!
Не шабуршыце, шалапуты:
Всэ будэ так, як мае буты.

**Кнехт, Мінск**

# Вада і штосьці яшчэ

Каляднае апавяданне. Піша **Марына Вашкевіч**.

Мой муж ненавідзіць калядныя ялінкі. Ён кажа, што мець ялінку — гэта як трымаць у доме закансерванага мерцвяка. З таго моманту, як мы ажаніліся, кожны снежань пачынаўся для нас адной і той жа размовай.

— Алесь, хутка Каляды. Мо пачнем рыхтавацца?—казала я, падносячы мужу кубак ягонай улюбёнай шыпшынавай гарбаты.

— Але ж ты ўжо спякла свае фірмовыя імбірныя пернічкі. Што яшчэ мы мусім падрыхтаваць загадзя? — запытваў Алесь.

— Ну, мы яшчэ не набылі нікому падарункаў...—працягвала я.

— А што гэта тады за гара загорнутай у рознакаляровую паперу хрэні на нашым гаўбцы?—цікавіўся Алесь.

— Падарункі. Але нам трэба больш!—бадзёра хлусіла я.

— Не праблема: з’ездзім на якіх выходных у Вільню, затарымся,—паціскаў плячыма Алесь.

— Яшчэ нам трэба прыбраць у хаце...

— За тры тыдні да святкавання?!

—...Прыбраць і ўпрыгожыць!—я паступова падбіралася да небяспечнага перавалу ў гутарцы.

— Ну, добра. Я пашныпару па нашых антрэсолях — недзе мусяць ляжаць гірлянды з мінулага года, —уздыхаў Алесь.

— Ага, мусяць... Хочаш мёду ў сваю гарбатку?—вуркатала я.

— Хачу, дзякуй.

Я любоўна намешвала мужу ў кубак дзве лыжкі цягуча-жоўтага мёду, уважліва сачыла, як Алесь зробіць першы глыток і пускала ў ход цяжкую артылерыю:

— Ведаеш, акурат побач з маім офісам зладзілі сімпатычны калядны кірмаш. Там прадаюць такія цудоўныя ялінкі...—казала я, міжволі сціскаючы ў кулакі далоні.

— Ліза, ну колькі можна? Я катэгарычна супраць жывой ялінкі ў хаце! — абражана перапыняў мяне Алесь.

— Ну чаму, чаму ты не любіш гэтую кранальную традыцыю?

— О, тое, што яна кранальная — гэта дакладна: кранальная igліца знаходзіцца ў самых нечаканых і цяжкадаступных месцах нават праз некалькі тыдняў пасля таго, як ялінку выкінулі...— вытанчана, на ягоны погляд, пажартаваў Алесь.

— Igліца — гэта не назаўжды. Ну чаму мы не можам быць як усе нармальныя людзі?

— Твае «нармальныя людзі» твораць безліч бязглуздых рэчаў. Аднак мы можам набыць штучную ялінку, — змякчаўся Алесь, пабачыўшы, як моцна я цераблю левае рукаво.

— У іх няма душы: яны не пахнуць, не колюцца голкамі, як сапраўдныя...

— Ну, як скажаш. Значыць, абмяжуемся гірляндамі, — паціскаў плячыма Алесь і засяроджваўся на гарбаце.

З гадамі нашыя дыялогі зрабіліся карацейшымі:

— Алесю, хутка Каляды...

— Не, мы не набудзем ялінку!

Гады паразаў. Дзевяць Калядаў без ялінкі.

Летась мае малітвы нарэшце былі пачутыя: муж выправіўся ў трохдзённую камандзіроўку акурат за два тыдні да Калядаў. Гэта быў мой шанец. Як толькі за ім зачыніліся дзверы, я пабегла на бліжэйшы елачны кірмаш. Ходзячы між шэрагаў ялінак, удыхаючы іх водар і датыкаючыся пальцам да востранькіх голак, я трымцела ад шчасця. Урэшце, я знайшла ЯЕ. Не дужа высокая, яна ледзь сягала маіх грудзей. Дрэўца выглядала трошкі няўклюдна: камель скрыўлены, голкі разгублена тырчаць убакі — нібы ялінка не паспела прычасацца. Яна пахла маім дзяцінствам.

Дома я пасадзіла ялінку ў драўляную скрыню з пяском, які накапала ў пясочніцы (спадзяюся, дзеці не збяднеюць), і паліла вадзіцай. Дастала з антрэсоляў абутковую скрынку з каляднымі ўпрыгожаннямі: іх час прыспеў!

Я ўбірала ялінку дзве гадзіны, шукаючы для кожнай цацкі добры ракурс і найлепшае асвятленне. Урэшце зрабіла крок назад, каб ацаніць працу. Я засталася задаволеная. Гэта была ідэальная калядная ялінка для неідэальнай жанчыны.

Кладучыся спаць, я адчувала стому і ўзрушанасць адначасова: я ажыццявіла адну са сваіх мараў і здзейсніла рэвалюцыю супраць мужа! Насычаны атрымаўся дзянёк.

Я, безумоўна, баялася мужавай рэакцыі. Але не выкіне ж ён ялінку на двор!

Я напякла шакаладных кексаў, імбрык быў гатовы пачаць імпэтна кіпяціць ваду ў любую секунду. Ялінка стаяла ў гасцёўні рахмана, выцягнуўшыся, як малады салдат: яна ведала, што ў мяне з мужам канфлікт на глебе калядных дрэваў (калі я яе ўпрыгожвала, падзялілася сваімі хваляваннямі).

У дзверы пазванілі.

— Прывітанне, даражэзны мой!—ціўкнула я, цалуючы на парозе Алеся.

— Прывітаннечка! Уяўляеш, у нас у двары...—пачаў быў Алесь, але тут заўважыў у прычыненыя дзверы ялінку ў куце залы і выдыхнуў:—Што за...

—Выглядае міла, праўда?—з мальбой у голасе піснула я.

Ноздры Алеся пагрозліва пашырыліся. Ён моўчкі зняў паліто, узяў свой вазок і рушыў у спальню. Ён не дакрануўся да вячэры, якую я згатавала, і, калі я спрабавала з ім размаўляць, зацята маўчаў.

Наступным днём я рана сышла на працу, пакінуўшы на стале сняданак для Алеся (я спякла бананавых блінцоў і напісала на талерцы «Выбач!» чарнічным сочывам). Калі я вярнулася ўвечары, то знайшла Алесеў сняданак халодным на кухонным стале: чарнічны «Выбач!» расцёкся па ўсёй талерцы, падтапіўшы блінчыкі. Я паклала адзін з іх у рот — ён нагадаў мне набрынялую мыльнай вадой вяхотку. Сам Алесь чытаў газету ў гасцёўні: ён сядзеў у фатэлі, дэманстратыўна павярнуўшыся спінай да ялінкі. Я наблізілася да мужа:

— Слухай, Алесь. Ну даруй мне, калі ласка. Каб я ведала, што ты аж так не трываеш калядных ялінак, я б ніколі не прынесла яе дахаты...

Алесь глыбей зарыўся ў газету.

— Слухай, ну мы ж, здаецца, дарослыя людзі. Мы можам вырашаць праблемы, размаўляючы адно з адным, — не адступала я.

Алесь прабурчаў з-за газеціны:

— Няма пра што размаўляць: ты прыцягнула ў дом труп дрэва!

— Але ж гэта абсурд! Хіба табе сапраўды падаецца, што яму баліць?!

— А скуль табе ведаць, што не баліць? — з-за газеты бліснула злое вока.

— Ну, мне падаецца, што калядныя ялінкі нараджаюцца з веданнем сваёй місіі... Якая палягае на тым, каб цешыць людзей падчас святаў, а не правакаваць іх на сваркі.

Алесь уздыхнуў і адклаў убок газету:

— Слухай, мо я сапраўды крыху перабраў. Але мне не падабаецца, што ты не пакінула мне выбару: цяпер я вымушаны трываць гэтую ялінку. Калі ласка, не рабі мне болей такіх сюрпрызаў.

Я кіўнула і хуценька palяцела ў кухню запарваць шыпшынавую гарбату, каб замацаваць наша перамір’е.

Да Калядаў заставалася дзесяць дзён. Алесь трохі адтаў, аднак у гасцёўні ён заўжды сядаў да ялінкі спінай. Гутаркі пра яе таксама былі нечым кшталту табу. Калі ж Алеся не было побач, я адкрыта дзівілася на ялінку, удыхала хвойны водар і ціхенька спявала калядныя песні ў яе галінкі. Я таксама час ад часу палівала дрэўца.

Калі я прачнулася ў нядзелю, за чатыры дні да Калядаў, я адчула ў спальні водар хвоі. Гэта было дзіўна, бо раней пах не дасягаў спальні. Я ўстала з ложка і рушыла ў гасцёўню.

Зірнуўшы на ялінку, я аслупянела: дрэва выцягнулася ў вышыню, а ягоны камель патаўсцеў. А на камлі я заўважыла доўгі засохлы цурок смалы. Ён пачынаўся з сярэдзіны камля і заміраў некалькімі бурштынавымі кропелькамі на паўдарозе да карэння. Я дакранулася да адной з кропелек — яна растала пад маім пальцам.

Наступным ранкам я забегла ў гасцёўню перад працай, каб прымерыцца да ялінкі. Яна ўжо была сантыметраў на дзесяць вышэйшай за мяне. Ці я надзвычай хутка стоптвалася, ці...

Тут у калідоры пачуліся крокі Алеся, і я хутка рэціравалася, паспеўшы, тым не менш, заўважыць некалькі свежых кропляў смалы на камлі.

У аўторак я цэлы вечар лётала, набываючы прадукты для святочнага стала ды падарункі. Дахаты я вярнулася позна. Але перад тым, як пайсці спаць, на хвілінку заскочыла ў гасцёўню. Не запальваючы святла, навобмацак дабралася да кута, дзе стаяла ялінка, і дакранулася да яе галінаў: мае пальцы крануліся маленечкіх ліпкіх камячкоў. Водар у пакоі крыху змяніўся: ён цяпер быў далікатны, з салодкімі ноткамі.

У передсвяточны дзень я абудзілася рана: увечары да нас з Алесем меліся прыйсці госці на куццю, трэба было шмат чаго паспець. Паветра спальні поўнілася салодкім пахам кветак. Алеся ў ложку не было, і я выправілася ў разведку па кватэры.

Я знайшла мужа ў гасцёўні: ён стаяў у піжаме, утаропіўшыся ў калядную ялінку. Дрэва было цалкам усыпанае драбнюткімі мяккімі бледна-ружовымі кветачкамі. Наша ялінка пусціла карані і зацвіла — як вішня ці грушавае дрэва. Яна свяцілася моцай, пяшчотай і спакоем. І яшчэ ялінка, відаць, хітра падміргнула б нам, калі б умела.

Увечары, адпусціўшы гасцей, мы ў абдымку сядзелі з Алесем на канапе. Я прызналася яму, што таемна палівала ялінку. Алесь апусціў вочы.

— Ведаеш, я таксама яе паліваў.

— Ты ж ненавідзіш «трупікі дрэваў»!

— Ну, ужо і «ненавіджу». Мне проста шчыра шкада дрэўцы, якія вырошчваюць, каб потым ссячы. Мне закарцела дапамагчы хоць аднаму.

— Ну, мы з табой партызаны! — пырснула я. — Гэта ж трэба — абое палівалі ялінку!..

— Я думаю, што ялінка расквітнела не толькі з-за вады. Тут было і штосьці яшчэ — тое, пра што мы з табой не так часта размаўлялі пасля таго, як ажаніліся. Хочаш, я запару нам тваёй улюбёнай мятнай гарбаты? — спытаў муж, уздымаючыся з канапы. — І што ты, дарэчы, думаеш наконт невялічкага прыватнага лесу пад нашымі вокнамі? Што, калі мы ўвесну пасадзім у двары нашую калядную ялінку?

Я зусім не была супраць прыватнага лесу, хоць і ведала, што яму спатрэбіцца шмат вады. Вады і нечага яшчэ.





**Марына Вашкевіч**

Журналістка тэлеканала «Белсат». Жыве ў Варшаве.

# Забойства ў горадзе

Піша **Сяргей Ваганаў**.

### Аднойчы ў СССР

*У нядзелю, 8 снежня, надышлі 22-я ўгодкі Белавежскіх дамоваў. То бок канчатковага, як лічыцца, распаду СССР. Але пытанне — ці канчатковага? — застаецца дасюль.*

*На жаль, асэнсаванне распаду СССР, нават грунтоўнае, так і не пазбавілася прымітыўных эмоцый — ці то ўхвалення, ці то шкадавання, ці то найпрост агрэсіўнага абвінавачвання трох «разбуральнікаў». Так ці інакш, у масавай свядомасці і, адпаведна, у афіцыйных СМІ, а мо і наадварот, прычыны і наступствы «найвялікшай», па Пуціну, «геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя» зводзяцца да высновы, што «не ўсё было дрэнна ў Савецкім Саюзе». І да бясконцага суму.*

*Моладзь увогуле мала што ведае пра тое жыццё.*

*З якіх палітычных прыярытэтаў узнік пуцінскі тэзіс пра катастрофу, добра вядома — імперская палітыка, як ні фарбуй яе, патрабуе абгрунтавання.*

*Насамрэч катастрафічным было само існаванне СССР.*

*Доказы гэтай катастрафічнасці незлічоны. Да ўсіх вядомых, накшталт ГУЛАГу, Галадамору, найкрывавейшай у гісторыі чалавецтва вайны, да якой СССР прыклаў і свае намаганні, крывадушнай ідэалогіі і пабудаванай на касцях эканомікі з яе разбураючым мараль дэфіцытам усяго і ўся, дадам толькі тое, што катастрафічнасць малазаўважна месцілася па завуголлях псіхікі ці не кожнага чалавека.*

*Як землятрусу ці іншым прыродным катастрофам папярэднічаюць незвычайныя, малазразумелыя паводзіны розных жывых істот, так і ў чалавечым асяроддзі, у чалавечых паводзінах прадчуваецца наспяваючая катастрофа. Ніхто не ведае, калі яна грымне. Але грымне непазбежна.*

*Яно так: глабальныя, тэктанічныя зрухі паступова выспяваюць на так званым мікраўзроўні. Найперш у адносінах паміж людзьмі.*

*Сёння з нагоды чарговых угодкаў распаду СССР прапаную чытачам «Нашай Нівы», асабліва маладым, гісторыю, што адбылася ў 80-х гадах мінулага стагоддзя ў Светлагорску. І заадно самім вырашыць, ці сапраўды канчаткова сканаў СССР. На мікраўзроўні...*

*Знешне гісторыя мала чым адрозніваецца ад сучаснай крымінальшчыны. Мо толькі тым, што ў савецкія часы, як многія думаюць, унукі не забівалі бабулек.*

*Забівалі.*

*Аднак уся справа ў тым, чаму...*

### Жменька попелу

...І вось яны пайшлі ад вакзала напрасткі ў лес.

Дарога была знаёмая, і лес, што патанаў у доўгім чэрвеньскім змроку, не пужаў: за соснамі мільгацелі агні ў дамах новага мікрараёна, недзе грала музыка, а непадалёк усхліпвала рака, што ўгадвалася па космах туману і асвяжаючай прахалодзе начной расы. Агні ў дамах, праўда, хутка гаслі — набліжалася поўнач і горад стомлена адыходзіў да сну.

Ішлі ўтраіх. Наперадзе Аляксандр Качароўскі *(тут і далей прозвішчы змененыя —* **С.В.**), за ім ягоная бабуля, таксама Аляксандра, толькі Сцяпанаўна, услед, па хвастатай абочыне, каб не запэцкаць у вільготным пяску новенькія красоўкі, знаёмы Аляксандра Алег Пацапчук. Адну бабуліну кашолку нёс Аляксандр, другую яна сама. Хаця ён і намагаўся дапамагчы, не аддала. Ці ж мала ў старасці сваіх нетлумачальных дзівацтваў?

«...Ой, унучак, мяне нехта стукнуў!»

Аляксандр павярнуўся, убачыў бабулю, што ледзь узнімалася з зямлі, фігуру Алега, што застыла ці то ў разгубленасці, ці то ў чаканні, і раптам высока падскочыў, выкінуўшы ўперад нагу...

Такая ў іх была дамова — першы б'е Алег...

Потым на допытах кожны з іх намагаўся як мага дакладней намаляваць карціну злачынства: хто, колькі і чым нанёс удараў, як закрычала бабуля «нямым голасам», як цягнулі яе, ужо нежывую, спачатку па дарозе, потым праз лес, змінаючы кусты і здзіраючы малады мох, да ракі, пакідаючы сляды, адпачываючы ад нечаканага цяжару бабулінага цела, пакуль, нарэшце, не натыкнуліся на адчынены залеўны калодзеж на беразе...

Паспешлівага спалоху, аднак, у іх дзеяннях не было. Перш чым кінуць ахвяру ў калодзеж, спрабавалі абшукаць яе, гэта аказалася цяжка і стомна, яны нічога не знайшлі і засяродзіліся на змесціве кашолак. Там былі кофтачка, шарсцяная хустка, мяшочак з пернікамі, пара бутэлек з-пад малака, старая скураная сумачка, а ў ёй кавалачкі паперак з нумарамі тэлефонаў, адрасамі і перавязаны шнурком скрутак. Развязалі, знайшлі пашпарт, нейкія даведкі з пячаткамі, медаль. «На тым медалі, — паказваў на допыце Алег, — была выяўлена жанчына з маленькім дзіцём на руках. І яшчэ зорка».

Пашпарт яны спалілі — жменька попелу, добра што ноч і раніца былі без ветру, засталася на беразе. А медаль Алег кінуў у раку.

Гэта быў медаль «Мацярынская слава» — шасцярых дзяцей нарадзіла і выгадавала Аляксандра Сцяпанаўна. Пяцёра сыноў, дачка, у кожнага свае дзеці, то бок унукі, і сярод іх Аляксандр, Саша, Сашанька, яе радасць, яе крывіначка...

Яе кроў.

### Званок уначы

Плямы крыві на джынсах, на кашулі выявіла маці Аляксандра Ганна. Пакуль сын адсыпаўся, яна старанна адмывала іх, ліхаманкава прыдумляючы выратавальнае для яго алібі. Нешта падказвала ёй, што Аляксандр, які з'явіўся ў хаце пад самую раніцу, замешаны ў нейкім злачынстве, страшным на гэты раз. А калі назаўтра ў горадзе стала вядома, каго знайшлі ў калодзежы на беразе, яна ўжо не сумнявалася, чыю кроў намагалася беспаспяхова адмыць. Пагроза сына забіць бабулю здавалася ёй пустой балбатнёй і глупствам, Ганна так і гаварыла яму: «Не рабі гэта глупства». І вось зараз яна набыла відавочны, жудасны ў сваіх рэальных падрабязнасцях абрыс.

Прайшоў дзень, ноч, яшчэ дзень. Аляксандр некуды сыходзіў, вяртаўся, а ўвечары другога дня зачыніўся ў спальні і моўчкі ўперыўся ў столь. З Бабруйска, атрымаўшы тэлеграму «Памерла мама», прыехалі ўжо Васіль і Аляксандр, з Брэста — Георгій. Сабраліся спачатку ў Анатоля, мужа Ганны, потым пайшлі да Надзеі, дзе ўжо стаяла труна, потым на вакзал сустракаць старэйшага брата Міхаіла — яго аднаго занесла ў далячынь, аж но ў горад Уральск. Міхаіл прыехаў уночы, а пасярод яе ў кватэры следчага пракуратуры Русіновіча прагучаў званок.

Два дні Русіновіч і міліцыя працавалі без адпачынку. Ужо была зроблена ўся папярэдняя работа, ужо былі дапытаныя першыя падазроныя, але ніхто з іх Аляксандру Сцяпанаўну не ведаў і сцежкі іх у тую ноч нідзе не перасякаліся. Дапытаў Русіновіч і Надзею. Так, адносіны з маці былі дрэнныя, яна сышла з дому, бадзялася па горадзе, часцяком бачылі яе ў лесе, збірала бутэлькі, начавала дзе прыдзецца — на вакзале, ля крамы, у знаёмых бабулек... Русіновіч знайшоў і гэтых бабулек. Яны плакалі ўголас, шкадавалі забітую, згадвалі, як яна скардзілася на дзяцей, на дачку, што выгнала яе і пагражала падпаліць кагосьці, каб яе забілі. Вось і хавалася, усё больш па лясных сцежках хадзіла, прыгаворвала «прыйшоў май, і пад кусцікам рай»... Але веры ва ўладкаванне свайго жыцця не губляла, маўляў, да халадоў даб'ецца ў гарсавета кватэры — і разгортвала скруткі, паказвала свой медаль, медалі мужа за Кёнігсберг і Берлін, даведку ваенкамата пра тое, што муж яе ваяваў і памёр ад ранаў у 1954 годзе, бедавала, што знікла ягонае пасведчанне інваліда першай групы, і ўпэўнівала, што яго скрала дачка, каб атрымаць кватэру...


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Напрыканцы другога дня Русіновіч зайшоў у тупік. Не тое каб ён не ведаў, што рабіць далей, але версіі, што маглі б так ці гэтак тлумачыць падобныя злачынствы, патаналі ў шмат якіх пабочных, на першы погляд, падрабязнасцях. Крадзеж? Але яго не было, у вопратцы забітай знайшлі прышпіленыя ў розных месцах кашалькі з грашыма. Нечае п'янае вар'яцтва? Наўрад ці, слядоў жывёльнага гвалту не выяўлена, а час забойства быў дастаткова позні, каб старая магла збіраць бутэлькі ў лесе і натыкнуцца на п'яную кампанію... Збірала бутэлькі? Тут нешта ёсць. З таго часу, як ўзнялі іх цану, збіранне пустых бутэлек у горадзе, асабліва ў лесе, у зоне адпачынку, набыло пагрозлівыя памеры. Займаліся гэтым промыслам найперш п'янюжкі, але было і шмат пажылых людзей. Асабліва завіхаліся бабулькі, абыходзячы прымятыя летнімі вечарамі паляны, кусты... Што праўда, закона, каб забараняў збіраць пустыя бутэлькі, няма, з практычнага пункту гледжання ёсць у гэтым занятку нават нешта карыснае — і лес чысцейшы становіцца, і якое-ніякое дабро не прападае. Але ж дабро дармавое, усялякі спосаб пажывіцца дармаўшчынай грамадская мараль лічыць ганебным, ваклол дармаўшчыны атмасфера, як правіла, напалена... Вось і з бутэлькамі да чаго дайшло — лес на дзялянкі падзялілі, крый божа якому збоўшчыку ў чужыя ўладанні залезці! Русіновіч ужо сутыкаўся з бойкамі, што ўзнікалі на «бутэлькавай» глебе, і версія пра помсту з боку «канкурэнтаў» падавалася яму больш-менш імавернай. Бянтэжылі, праўда, сляды красовак — абутак маладзёжны, спартовы. Але маглі ж і згадзіць...

Ён зразумеў, што калі не засне, працаваць заўтра не здолее. І вось на табе, сярод ночы — званок.

### «Я, Качароўскі...»

Званілі з міліцыі, прасілі тэрмінова прыехаць. Ля міліцыі стаяла група людзей — некалькі мужчын, жанчына. Ён прайшоў міма.

У дзяжурцы ўбачыў высокага, з круглым тварам хлопца. Дзяжурны неўразумела развёў рукамі: «Вось, унук з'явіўся, гаворыць, што забіў»...

Русіновіч стомлена апусціўся на крэсла, падсунуў Аляксандру паперу, ручку. Пакуль той пісаў, глядзеў на яго, яшчэ дрэнна разумеючы, што адбываецца. Успомніў раптам вартаўніцу прывакзальнага магазіна, у якой час ад часу начавала Аляксандра Сцяпанаўна, і яе словы: «Гэта маглі зрабіць толькі яе дзеці...»

Ён ужо зразумеў, хто стаіць ля міліцыі, але аніякага жадання зараз жа размаўляць з імі не было. Ён не верыў, баяўся верыць. Здавалася, павінна было прыйсці пачуццё прафесійнай палёгкі, аднак не прыходзіла. Не таму, што злачынец з'явіўся сам і, па ўсім, піша праўду. Менш за ўсё ён думаў пра свой прэстыж, менш за ўсё папракаў сябе за недагадлівасць, бо ланцужок фактаў няўмольна вёў да сям'і. Але ён адводзіў гэты ланцужок убок, прапрацоўваючы н а р м а л ь н ы я версіі. Пазней, у размове, ён прызнаваўся, што не мог, не хацеў, нават не жадаў «так жорстка мысліць». А зараз, гледзячы на забойцу, успомніў сваё дзяцінства, юнацтва, удовіны слёзы маці... Спытаў у сябе: а ці ж лёгкім было дзяцінства тых, хто стаіць зараз на вуліцы? Саракавыя, пяцідзясятыя, безбацькоўшчына, голад... Ён падумаў, што іхняя маці амаль усё жыццё пражыла ў вёсцы, і гэта сталася для яго раптам шматвызначальным — на вёску тых гадоў ён яшчэ не забыўся. Вось і Надзея, падумаў, нарадзілася ў 46-м. Выходзіць, праз год, як бацька вярнуўся з вайны...

Русіновіч злавіў сябе на тым, што зусім не думае пра матывы забойства, быццам гэта было ўжо неістотна. Перад вачыма зноў і зноў узнікала старая, і ўсё, што ён паспеў зазнаць пра яе, вяло да пытання не пра матывы забойства — пра матывы яе дзіўнаватага ладу жыцця. Як жа так, думаў ён, шасцёра дзяцей і... бутэлькі, вакзальная лава, выпадковыя прыстанкі... І прычым тут унук?

Увага яго зноў перакінулася на Качароўскага. Той пісаў засяроджана, не спыняючыся, мусіць, ужо пераадолеў хваляванне, і на ягоным твары прамільгнуў адбітак нейкай усвядомленай невінаватасці. Дапісаў, адкінуўся ў крэсле. Русіновіч працягваў глядзець на яго, шукаючы ў адказ хаця б цень раскаяння, ці страху, ці пакорлівай гатоўнасці да пакарання, аднак нічога, акрамя безуважнасці, не ўбачыў...

«Я, Качароўскі Аляксандр Анатольевіч, 1964 года нараджэння, слесар...»

### Вядома хто — маці

З Пацапчуком яны дамовіліся тыдні за два да трагічнай ночы. Сяброўства, нават блізкага знаёмства, паміж імі не было — так, мільгаценне твараў на дыскатэках, у вулічных кампаніях, пляж-

# Светлым

ным гультайстве. Дзённымі сваімі заняткамі і ўвогуле не межаваліся: Качароўскі працаваў на заводзе штучных валокнаў, вакол каторага ўзнік Светлагорск, Пацапчук, на два гады малодшы, вучыўся ў ПТВ. Такім чынам, у іх сустрэчы і змове пераважваў элемент выпадковасці. Але было і нешта злавесна заканамернае ў тым, што выбар Качароўскага для выканання сваёй задумы аказаўся беспамылковым. Што?

Трэба, вядома, ведаць самога Качароўскага і абставіны ягонага жыцця, каб адказаць на гэта пытанне. Да пэўнага часу фігура яго паўстае ў нейкім плоскасным выяўленні. Школа, завод, вячэрні тэхнікум... Ніколі нічым не хварэў, займаўся спортам, дзядзька Георгій, гаворачы пра пляменніка і свае адносіны з ім, толькі і здолеў выказаць такім чынам, што «заўсёды захапляўся тым, які ён высокі, плячысты і больш нічога».

Паступова, аднак, вобраз Качароўскага набывае глыбіню і аб'ём. Высвятляецца, што злачынства сваё Качароўскі здзейсніў, як толькі адбыў пакаранне за крадзеж у цягніку. У суседнім Жлобіне на яго заведзена крымінальная справа за ўдзел у збіцці чалавека. Следства, аднак, тамтэйшая міліцыя вядзе марудна, хаця размова ідзе пра злоснае хуліганства. Усплыла раптам і гісторыя з угонам машыны. Яе, бацькоўскую, па заяве Ганны міліцыя шукала некалькі дзён, вытрымліваючы бескапрамісную патрабавальнасць пацярпелай і зневажальныя пагрозы знайсці на яе, міліцыю, управу... Разбітыя «Жыгулі», аднак, хутка былі знойдзены, высветлілася, што гэта справа рук сына, гісторыя заглухла і сын быў дараваны...

Потым з'яўляюцца характарыстыкі. Школа сцвярджае, што Качароўскі «... вызначаўся ўпартым і грубым характарам. Блізкіх сяброў не меў, бо часцяком падманваў аднакласнікаў. Запальчывы, недысцыплінаваны. Некалькі разоў быў выкрыты ў дробных крадзяжах. Захапляўся роварным спортам, актыўна ўдзельнічаў у спартовых спаборніцтвах...» Тэхнікум характарызуе не столькі Качароўскага, колькі ягонþю маці Ганну, якая «выпрошвала ў настаўнікаў адзнакі, нават пагражала ім...» Заводскія «разумнікі» наогул прапануюць паразмысліць над сумяшчальнасцю несумяшчальнага: «... да выканання сваіх працоўных абавязкаў ставіўся добра, хаця меліся выпадкі парушэнняў працоўнай дысцыпліны»...

Нагод спыніць Качароўскага і людзей, якія здолелі б гэта зрабіць, было, як бачна, звышдастаткова. Але вось што цікава: ён ніколі не быў у спісе так званых «цяжкіх». Нехта ўмела дапамагаў яму пазбягаць ускладненняў, ствараў ў вачах людзей навокал і яго самога ўражанне знешне шчаслівай плыні жыцця. Зрэшты, вядома хто — маці. Ва ўсіх сутыкненнях Качароўскага з грамадствам, ці то школьны, студэнцкі альбо працоўны калектыў, паміж імі паўставала постаць маці, змякчаючы канфлікты, пазбаўляючы іх у свядомасці сына сапраўднай вастрыні і небяспекі, нараджаючы ў ім адчуванне не толькі беспакаранасці, але і нейкай правамернасці, натуральнасці антыграмадскіх паводзінаў.

Але гэта заступніцтва было прадыктавана не толькі сляпой любоўю да сына. У сям'і панаваў культ рэчаў, культ матэрыяльнага дабрабыту, і ён, па ўпэўненасці Качароўскай, даваў сыну непараўнальную перавагу над тымі, хто кіраваўся ў жыцці іншымі каштоўнасцямі. На фоне няўдалага сямейнага жыцця (з Анатолем, які часта і надоўга з'язджаў на Поўнач, Ганна разышлася, працягваючы, зрэшты, сумеснае пражыванне, і адзінай сувяззю, на якім яно трымалася, былі вялікія заробкі былога мужа) эгаізм, што быў унушаны Качароўскаму,ператварыўся ў ягоным разуменні ў адзіны спосаб самасцвярджэння. Эгаізм, што быў давездзены да паталогіі.

Паталогіі, зрэшты, псіхічнай у тым ліку, медыцынская экспертыза ў Качароўскім не знайшла. Але выснову зрабіла паказальную: «Запас ведаў ніжэйшы за атрыманую адукацыю, аднак добра разбіраецца ў практычных пытаннях».

Я не ведаю, якія пытанні задавалі Качароўскаму эксперты, але ягонае злачынства было прадыктавана меркаваннем менавіта практычным. І здзейснена, ад задумы да зыхода, цвяроза, разважліва, з ашаламлянай жорсткасцю не толькі дзеяннеяў, але і матываў.

### «Дваццацьпятную дасі?»

Першай пра гэтыя матывы зазнала маці, другім Пацапчук, трэцім — Русіновіч. Маці, нагадаю, «забараніла забіваць бабулю» — такое яе паказанне на допыце. Пацапчук... У таго былі свае матывы, пра іх трохі пазней. Русіновіч жа, прачытаўшы «...забіць бабулю мяне вымусіла вялікая ганьба...», спатыкнуўся, перачытаў ізноў і паставіў побач вялікі пытальнік. Ён зразумеў раптам, што р а с к р ы ц ь злачынства будзе нашмат цяжэй, чымсці здавалася, калі ён, чытаючы прызнанні Качароўскага, адзначаў супадзенне ўжо сабраных доказаў, месца і часу забойства.

Ганьба?

Выбар Пацапчука ў кампаньёны быў, паўтаруся, прадвызначаны цвярозым разлікам. Качароўскі ведаў, што ён займаецца каратэ, і меркаваў, што аднаго ўдару будзе дастаткова. Заставалася толькі дамовіцца. «Дваццацьпятную дасі?» — запытаўся Пацапчук.

«Мне патрэбны былі грошы, каб набыць пратэін, бо ён садзейнічае росту мышцаў, а я займаюся культурызмам...»

Ён усё ж паспеў да арышту прыдбаць бутлю чорнай вадкасці, што ўжываецца, паміж іншым, для адкорму скаціны...

Трэба казаць пра пажыўнае асяроддзе, у якім гадаваўся Пацапчук. Пра ягоную маці, прыбіральшчыцу, што не шкадавала для адзінага сына нічога, абы ён быў сыты, абуты, апрануты па модзе — «чым мы горшыя за іншых?» — і бесклапотны. Так і не зразумеўшай, што сталася з ім. Трэба казаць і пра Богуша, майстра працоўнага навучання СПТВ у Жлобіне, куды Пацапчук папаў пасля школы. Навучанне давалася цяжка, ён папрасіўся ў групу да Богуша, бо той — былы спартовец. Богуш напісаў яму характарыстыку, з палёгкай уздыхнуў, калі Пацапчук вырашыў перавесціся ў СПТВ у родны Светлагорск. Вось яна: «Палітычна граматны, фізічна здаровы, рэгулярна сочыць за сваім знешнім выглядам. Мае пропускі заняткаў па ўважлівых прычынах, сярод таварышаў карыстаецца аўтарытэтам... Акрамя таго, вывучыў факультатыўны курс па этыцы...»

Іншая характарыстыка даслана са Жлобіна ў адказ на запытанне Русіновіча: «...меў цягу да маральна сапсаваных учынкаў: пракалоў вуха і ўставіў завушніцу, адпрацоўваў прыёмы каратэ ў лесе да крыві на руках, падгольваў скроні, падобна на «панкаў»...»

Яны ездзілі на вакзал некалькі дзён. То не заспявалі бабулю, то людзей у зале чакання было зашмат. Нарэшце, заспелі, Качароўскі ўгаварыў яе пайсці начаваць дадому, узяў кашолку і яны рушылі ад вакзала наўпраскі ў лес...

### Дзеткам — на чорны дзень

Вёска П. месціцца ў зоне прыцягнення двух гарадоў — Бабруйска і Светлагорска. Туды, у асноўным, і цягнуліся, падрастаючы, дзеці Аляксандры Сцяпанаўны Качароўскай. Скончыўшы школу, яны пакідалі родныя мясціны ў пошуках надзейнай справы, прыстойных заробкаў і добра наладжанага быту. Слесар, токар, электрык, механік, крупільшчыца — кожнаму знайшоўся ў іх гарадскім жыцці занятак па душы. Паступова абзаводзіліся сем'ямі, час ад часу наведваючы матулю. Тая ўвіхалася ля гаспадаркі, прывячала гасцей, радавалася ўнукам. Некаторыя заставаліся ў вёсцы надоўга, набіраліся моцы і здароўя на свежым паветры і парным малацэ. Сямейнае дрэва разрасталася, моцнымі здаваліся карані і ствол, а маладыя парасткі абяцалі ў будучыні цяністую карону, тую самую ласку, якая і ёсць суцяшэнне старасці, яе спакой і ціхая радасць.

У Бабруйску і Светлагорску, пра Уральск і казаць няма чаго, матуля бывала зрэдку — дзеці калі і запрашалі яе, то збольшага па неабходнасці, зноўку ж за ўнукамі прыглядзець. Але і сама не вельмі любіла гасцяваць у дзяцей — і гаспадарку пакідаць няма на каго і не падабалася ёй гарадское жыццё: заўважала, што не ўсё добра ў сынавых і дачушкіных сем'ях. Анатоль п'е і гойсае па белым свеце, у Георгія ад жонкі шалапутнай жыццё неспакойнае, і Надзея вось з мужам разышліся... Здавалася ёй, што дзеці мала пра сваё будучае клапоцяцца, хмурнела і раздражнялася ад дробязей, падбірала ўсялякую кінутую дзецьмі карачку хлеба, анучку, бурчала, калі чайнік на газе перастоіць і святло паліцца дарэмна. Не разумела, як гэта можна так не па-гаспадарску дабро марнатравіць, і пацiху, капейчына да капейчыны, рубель да рубля, назапашвала на іх, дзяцей, чорны дзень...

Потым, на допыце, Георгій у асуджэнне скажа, што маці была «эканомная». Надзея ўдакладніць — «прагная...»

З вёскі да сябе ў Светлагорск Надзея забрала маці ўвосень 1980-га. І раней матуля жыла ў яе даўжэй, чымсці ў братоў: глядзела ўнука, пакуль дачка хадзіла на працу, у вячэрнюю школу, да сяброў і сябровак. Надзея цярпліва зносіла яе «дзіўнаватасці», бурчанне і незадаволенасці. Потым маці з'ехала. І вось па настойлівым патрабаванні дачкі вярнулася. Назусім: на заводзе, дзе працавала Надзея, падышла чарга на кватэру, з «маласямейкі» ў аднапакаёўку не хацелася, і яна прапісала ў сябе маці...

У новай кватэры і жыццё пайшло па-новаму.

Ужо не Надзея да сяброў і сябровак, а яны зачасцілі да яе. Старая перашкаджала, раздражняла, успыхвалі сваркі — што праўда, характар старой ад рэзкіх пераменаў у жыцці стаўся нецярпімым. Надзея, зрэшты, і не збіралася цярпець — слоў не выбірала, пагроз не шкадавала...

Прасвет з'явіўся, калі Георгій забраў маці да сябе ў Бабруйск: да таго часу ён развёўся з жонкай, дзеці засталіся без нагляду... Забраў, здавалася, назаўсёды, нават выпісаў маці з новай кватэры ў Светлагорску. Халасцяком, аднак, пабыў не больш году — напярэдадні замаячыла іншае жыццё, ён сабраў дзяцей, новую жонку і, пасядзеўшы на дарожку, з'ехаў у Брэст. А маці ўсё з тымі ж кашолкамі — свая ноша не цяжкая — вярнулася да Надзеі...

Калі-нікалі, наязджаючы ў Светлагорск, яе прыводзіў да сябе Анатоль. Ганна скандаліла, а калі пасля чарговага начлега зніклі 600 рублёў і кавалак каўбасы, шлях у дом сына быў забаронены.

Анатоль пазваніў Георгію — прытулі маці. «Не магу, брат, скажы ёй, каб зняла кватэру, а мы будзем аплочваць». Тое самае — Васіль. Аляксандр наогул параіў: «У гарсавеце ёсць тапчан, хай ідзе ў гарсавет і спіць на тапчане»...

### І яна пайшла ў гарсавет

Мікалай Рыгоравіч Набочанка, старшыня, адразу зразумеў, у чым справа. «Не, бабуля, мы не можам даць вам кватэру, гэта будзе не па законе. А вось з дачкой разбяромся», — і пазваніў на завод.

Разбіраўся прафкам. Была створана адпаведная камісія, яна абследавала жыллёвыя ўмовы Надзеі, апытала суседзяў і склала акт: кватэра вялікая, добраўпарадкаваная, маці ўпісана ў ордар, з дачкой, аднак, не ўжылася... Пазней у прафкамаўскай кнізе прыёму наведвальнікаў з'явіўся запіс: «Качароўская Аляксандра Сцяпанаўна. Пяць гадоў гадавала

## Пагроза сына забіць бабулю здавалася ёй пустой балбатнёй

ўнука, хлопчыку 9 гадоў. Пераехала да дачкі. Дачка пагражае — падпаю каго-небудзь, цябе задавяць і выкінуць. І маці не жыве ў дачкі»...

Зноў стварылі камісію. Надзея плакала, казала, як цяжка жыць з маці, але яна яе не выганяла, тая сама сышла, ганьбіць яе, збіраючы бутэлькі, начуючы, дзе прыдзецца... Так, пагадзілася камісія, сапраўды сама сышла. І ў графе «Прынятыя меры» з'явіўся новы запіс: «Агульнае меркаванне: Коткіна не вінаватая ў дрэнных адносінах з маці. Маці дамагаецца кватэры».

І ўсё. І кропка.

Жыць Аляксандры Сцяпанаўне Качароўскай заставалася восень, зіму, вясну, да першага дня чэрвеня... Па змрочным супадзенні — міжнароднага Дня абароны дзяцей...

### Старых ніхто не лічыць

Не ведаю, ці трэба яшчэ што тлумачыць.

Я размаўляў са старшынёй гарвыканкама Набочанкам. Малады, энергічны, заклапочаны тысячай неадкладных справаў... Не, на Качароўскую не забыўся, нават дзень і гадзіну, калі тая была ў яго, памятае. «А вы ведаеце, колькі ў нас такіх старых? Вось, глядзіце», — і ён дастаў з шуфлядкі стала дзве папкі. У адной быў агульны гарадскі спіс на паляпшэнне і атрыманне жылой плошчы, у другой — льготны. «Дык вось, у агульным спісе амаль ніякага руху, змяняецца толькі льготны. Але не змяншаецца, — ён задумаўся, паціраючы скроні. — Вы запытаеце чаму? Таму ў горадзе, якому ледзь за дваццаць, так многа старых? Звозяць іх з вёсак, вымушаюць хаты прадаваць, гаспадарку згортваць і — у горад. Здараецца, што і без продажу хат ліпавыя даведкі здабываюць — дом у вёсцы і пасля смерці бацькоў спатрэбіцца... Што праўда, старым, асабліва адзінокім, у вёсцы цяжка заставацца. Яно і правільна, па прыродзе правільна — разам з дзецьмі жыць. Але дзеці карыстаюцца старымі па патрэбе, карыстаюцца іх правамі і льготамі. Глядзіце, што ні бацька, то ветэран, удзельнік, інвалід, у першую чаргу ўсё ім ці іх жонкам. Насамрэч, дзецям. Толькі дзеці, атрымаўшы сваё, забываюцца на старых, нават пагарджаюць імі. Вось і мыкаюцца тыя, парогі абіваюць, скардзяцца на дзяцей. Цеплату і паразуменне шукаюць паміж сабой, суцэльныя суполкі старых узнікаюць. Ну і занятак сабе знаходзяць — хто на лаўцы ля дома пасядзець, хто ўсе магазіны абысці, хто ў лес, па бутэлькі — занятак не бессэнсоўны атрымліваецца...

«Колькі, — пацікавіўся я, — у горадзе такіх старых?» — «Шмат, — паўтарыў Набочанка, — вельмі шмат...»

Пазней я даведаўся, што па статыстыцы сярэдні ўзрост жыхароў Светлага горада — 27 гадоў. І аказалася, што старых ніхто і не лічыць. Што пабачыць праблему за чалавекам значна лягчэй, чымсці чалавека за праблемай. Кожнага. Пайменна. Па прозвішчах...

### Здымак на памяць

...Я пайшоў да Надзеі позна ўвечары. За сценкай неспакойна спаў сын.

«Карміла яе, апранала... Што ёй яшчэ было трэба? Колькі ганьбы ад людзей нацярпелася!»

Раптам адчыніліся дзверы і ў пакой убегла заспаная дачушка, мо гадоў сем, прытулілася да Надзеі: «Мама, а табе шкада бабулю? Мне чамусьці не шкада...»

Надзея яшчэ мацней заплакала, потым сцішылася і прынесла — я папрасіў — сямейны фотаальбом. Вось брат, вось сяброўка, а вось і яна з матуляй — стаяць у садзе, пад ябынямі, узяліся за рукі... А вось і Аляксандр з бабуляй — глядзяць у аб'ектыў, нахіліўшы адзін да аднаго галовы, хлопчык гадоў дзесяці і жанчына, яшчэ не старая, у прыгожай, з кветкамі, сукенцы. На памяць здымак.

Ён так нічога і не зразумеў, Аляксандр. Пасля суда, калі людзі, уцямíўшы, крычалі Качароўскім «забойцы!», ён напісаў у касацыйнай скарзе, просячы скараціць 15-гадовы тэрмін зняволення: «Злачынства здзейсніў пад уплывам няправільных паводзінаў сваёй бабулі... Яна ганьбіла нашу сям'ю, мяне...»

* * *

...Я пакідаў горад у ясны марозны дзень. Дымеў завод, узнімаліся ўздоўж навярджанай магістралі шматпавярховыя дамы, у заснежаным лесе мільгацелі рознакаляровыя постаці лыжнікаў, асляпляла белізной шырокая прастора ракі — і сапраўды малады, прыгожы, светлы горад. А з памяці маёй усё не сыходзіла і, мо, ужо ніколі не сыдзе заспаная дачушка Надзеі: «Мама, а табе не шкада бабулю? Мне не шкада...»

*kamerton_41@mail.ru*

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Чырвоныя крылы»




**14 снежня ў рамках Адзінай лігі ВТБ «Цмокі»** згуляюць з самарскімі «Чырвонымі крыламі». Пачатак а 16 на «Мінск-Арэне».

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Віцязь»

**11 снежня на «Мінск-Арэне»** «зубры» прымуць падольскі «Віцязь». 13 снежня — гульня супраць маскоўскага «Дынама». Пачатак гульняў а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### «Мяцеліца»

**Конкурс беларускіх танцаў «Мяцеліца» адбудзецца ў Палацы мастацтваў 14 снежня 2013 года (Казлова, 3).** Праграма конкурса будзе суправаджацца традыцыйнымі спевамі і музыкай інструментальных капэл, таксама зайграе Васіль Семашкевіч — выдатны музыка з Любані. Для гледачоў і ўдзельнікаў правядуць майстар-клас па танцы «Мяцеліца». У праграме конкурса — 10 найбольш вядомых беларускіх танцаў. Пачатак — а 10.30, завяршэнне — а 16.30.

## КАНЦЭРТЫ

### Героі года

**12 снежня а 19 у арт-цэнтры «Юла» (Сурганава, 26)** — прэмія «Героі года» ад партала Tuzin.fm пры ўдзеле гуртоў Tonqixod, Hurma, SP Kava, Re1ikt, :B:N:.

### Лявон Вольскі і Павел Аракелян

**12 снежня а 19 у Loft café (Броўкі, 22)** — канцэрт Лявона Вольскага і Паўла Аракеляна.

## ВЫСТАВЫ

### Перасячэнне і пераемнасць у Маене

**У Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануецца выстава «Перасячэнне і пераемнасць у Маене». Упершыню ў Беларусі можна пабачыць творы 10 французскіх аўтараў-самавукаў, прадстаўнікоў розных плыняў наіўнага, інсітнага мастацтва, што сфармавалі асобны дынамічны стыль.

### Белая Русь і яе суседзі

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Белая Русь і яе суседзі». Выстава з'яўляецца сумесным праектам Расійскага этнаграфічнага музея (Санкт-Пецярбург) і Нацыянальнага гістарычнага музея. Праект прэзентуецца ўпершыню і падрыхтаваны спецыяльна для экспанавання ў Мінску. Экспазіцыя прадстаўляе больш за 700 аўтэнтычных помнікаў традыцыйнай культуры народаў, якія засялялі землі гістарычнай вобласці «Белая Русь». Гэта беларусы, літоўцы, латышы, палякі, украінцы і іншыя — усе тыя этнасы, што некалі пражывалі ў межах адзінай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.




### Маляванка: традыцыі і сучаснасць

**У Музеі старажытнабеларускай культуры (Сурганава, д.1,к.2.)** працуе выстава работ студэнтаў кафедры касцюма і тэкстылю Акадэміі мастацтваў «Маляванка: традыцыі і сучаснасць».

Студэнты спачатку стваралі копіі арыгінальных маляванак (у тым ліку Язэпа Драздовіча), а ў аўтарскіх работах паспрабавалі паказаць, як ажывае традыцыйная тэхніка ў сучаснасці.






### Tattoo Fest — 2013

Першы агульнарэспубліканскі фестываль «Tattoo Fest — 2013» пройдзе 14—15 снежня пры музычнай падтрымцы гуртоў Yellow Brick Road, The Conspiraters, Mihej Nosorogov, :B:N:, Крама. Пачатак 14 снежня а 19 у **клубе RE:PUBLIC (Прытыцкага, 62)**.

## ТЭАТРЫ

### 12 снежня

**Беларускай драматургіі** — Сталіца Эраўнд
**Купалаўскі** — Пінская шляхта
**Оперы і балета** — Чалавечы голас, Тэлефон

### 13 снежня

**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Лялек** — Вянчанне
**Оперы і балета** — Баль-маскарад

### 14 снежня

**Купалаўскі** — Паўлінка
**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Музычны** — Танга Салон

### 15 снежня

**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Лялек** — Кот у ботах

### 17 снежня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Оперы і балета** — Дон Кіхот

### 18 снежня

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі

## КІНО

### Пра піратаў і людзей

Капітан Філіпс
Драма, трылер
**Рэжысёр:** Пол Грынграс
**У ролях:** Том Хэнкс, Бархад Абдзі, Бархад Абдзірахман, Файлаз Ахмед, Махад М. Алі, Кэтрын Кінер
ЗША, 134 хв.

Капітан грузавога судна «Маерск Алабама» Рычард Філіпс выпраўляецца ў плаванне на сваім караблі ўздоўж берага Самалі. Гэта небяспечны раён, у водах якога запраўляюць некалькі банд самалійскіх піратаў. Камандзе Філіпса не ўдаецца пазбегнуць сутыкнення — невялікая група піратаў на чале з Мусэ пранікаюць на карабель, нягледзячы на ўсе спробы капітана падманунць захопнікаў. Дзякуючы яго хітрыкам, піраты бягуць з судна, але прыхопліваюць з сабою і Філіпса.

Сюжэт стужкі заснаваны на рэальных падзеях, што здарыліся з сапраўдным капітанам Філіпсам ля берагоў Самалі ў 2009. Неверагодна рэалістычная атмасфера фільма захоплівае з першых хвілінаў і трымае да канца, нягледзячы на больш чым двухгадзінную працягласць. Вобраз капітана Філіпса таленавіта стварае Том Хэнкс: вобраз мужнага, разумнага, вытрыманага чалавека, які пойдзе на ўсё дзеля сваёй каманды, але які бачыць нават у піратах найперш людзей.

**Настасся Уласава**



# «Калі Домрачава будзе страляць без промахаў, то суперніц у яе не будзе»

Біятлонны аглядальнік сайта goals.by. Андрэй Маслоўскі падзяліўся сваімі ўражаннямі аб пачатку сезона ў «страляючых лыжнікаў».

**«Наша Ніва»: Ужо мінула два этапы, але ў беларусаў няма ніводнага медаля. Чым растлумачыць такое не самае ўпэўненае выступленне?**

**Андрэй Маслоўскі:** Мне здаецца, што гэта звязана з алімпійскім сезонам. Большасць спартсменаў будзе імкнуцца выйсці на пік формы ў лютым, калі адбудуцца Гульні ў Сочы, праз гэта былі ўнесеныя карэктывы ў падрыхтоўчы этап. Хаця вось у мужчын француз Фуркад пабег з першых этапаў. Магчыма, ён проста настолькі круты, што нават у не самай найлепшай форме мацнейшы за ўсіх астатніх. Тыя ж нарвежцы пакуль зусім не ўражваюць.

**«НН»: Жаночыя вынікі здзіўляюць. Перамогу атрымлівала швейцарка Гаспарын, нарвежка Салемдал — гэта не самыя моцныя атлеткі. Сёлета не будзе аднаго лідара ў жаночым біятлоне?**

**АМ:** Асабіста я чакаў большага ад нарвежкі Туры Бергер. Але ў яе пакуль праблемы і са стральбой, і з бегам. Страшна цікава назіраць, калі гонкі выйграюць не самыя вядомыя біятланісткі.

**«НН»: Домрачава можа стаць лідарам жаночага біятлона?**

**АМ:** Напэўна, гэта не зусім патрыятычна, але я ў гэта не веру. Канечне, калі яна страляе дакладна, то суперніц для яе няма. Але Даша не можа прайсці дыстанцыю без промахаў з сакавіка 2012 года. За ўвесь мінулы сезон у яе не было ніводнай гонкі без траплення ў «малако»! Гэта цісне псіхалагічна. Па дыстанцыі яна прывозіць суперніцам 30-40 секунд, але гэтага мала без падрыхтоўкі на стрэльбішчы. Я пакуль не бачу, за кошт чаго беларуска можа справіцца з гэтымі праблемамі.

**«НН»: Чаму разгарэўся такі скандал вакол пераходу ў Беларусь расійскай біятланісткі Настассі Каліны? Здаецца, гэта ж не самая выбітная спартсменка.**

**АМ:** Шуміху паднялі расіяне. Ім не спадабалася, як Настасся афармляла пераход у зборную Беларусі. Таемна, пры гэтым атрымліваючы там грошыкі. Сама Каліна кажа пра каханне да беларуса, што хутка выйдзе замуж. Яе ж сястра кажа зусім адваротнае, пра матэрыяльны бок справы. Ніхто не абмяркоўвае, што Расея ўпусціла перспектыўную спартсменку, усе кажуць пра этычны бок справы. Асабіста я супраць такога завозу атлетаў. Нашы дзяўчаты Юркевіч і Толкач нічым не горшыя.

**«НН»: Ці можна чакаць прарыву ад беларускіх мужчын?**

**АМ:** У эстафеце глядзеліся даволі бадзёранька. Мне чамусьці верыцца ў новага галоўнага трэнера Алега Рыжанкова, ён помніцца як легендарны біятланіст. Верыцца, што ён зможа надаць нейкі імпульс. Калі мужчыны будуць у гэтым сезоне падыходзіць да 20-30 месцаў — гэта ўжо можна будзе лічыць значным скачком наперад.

**«НН»: Легендарнасць папярэдняга трэнера беларусаў Рафаэля Пуарэ проста зашкальвала. Чаму тады не атрымалася ў яго?**

**АМ:** Ён не да канца зразумеў, куды ж трапіў. У нас не любяць такіх людзей, якія адкрыта выказваюць сваю пазіцыю. Магчыма, Пуарэ проста не далі рэалізаваць сваю методыку.

**«НН»: Дык чаго чакаць беларусам ад біятланістаў на хуткай Алімпіядзе?**

**АМ:** Да Алімпіяды і Домрачава, і Скардзіна павінны выйсці на аптымальны ўзровень. Я думаю, што хоць адзін залаты медаль у Сочы павінен застацца нашым.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Кубак свету і Алімпіяда**

Біятланістаў чакаюць наступныя этапы ў гэтым сезоне:

**12-15 снежня:** Ансі (Францыя)

**3-5 студзеня:** Оберхоф (Германія)

**8-12 студзеня:** Рупольдынг (Германія)

**16-19 студзеня:** Антхольц (Італія)

**8-22 лютага:** Алімпіяда ў Сочы (Расія)

**6-9 сакавіка:** Паклюка (Славенія)

**13-16 сакавіка:** Кантыялахці (Фінляндыя)

**20-23 сакавіка:** Халменколен (Нарвегія)



**Гэты сезон для Домрачавай пакуль без узнагарод.**

**Цытата**



**Аліна Талай: Спрачаліся з рускімі аб Рэчы Паспалітай**

«Калі ўзгадваць дзяцінства, то ў мяне не было такой мары стаць касманаўтам, альбо супергероем ці яшчэ кімсьці. Я задумвалася, што ўсе мае сябры хацелі стаць кімсьці, а ў мяне такога ніколі не было. Максімум, што я думала, гэта пра ветэрынара. Бо вельмі любіла жывёл, як і ўсе ў дзяцінстве. Але такой канкрэтнай мары, кім я хачу стаць і чым займацца, ніколі не было.

Я дагэтуль не ведаю, чым хачу займацца. Заўсёды хацелася займацца ўсім патроху. Проста я жыву цяперашнім і неяк так не задумваюся, кім хачу стаць. Раблю тое, што падабаецца. Дарэчы, я ніколі і не думала, што буду прафесійнай спартсменкай.

У школьны перыяд вельмі захаплялася гісторыяй. І потым чытала яшчэ не адзін артыкул альтэрнатыўнай гісторыі. Але вельмі складана бывае з некаторымі размаўляць на гэтую тэму. Такія стэрэатыпы бываюць, што цяжка іх пераканаць, асабліва рускіх.

Спрачалася з адным рускім спартсменам наконт падзелаў Рэчы Паспалітай. Ясная справа, што ў кожнай краіны свая гісторыя, але з гэтымі імперыялістычнымі поглядамі цяжка змагацца. Мы сябе падаем як ВКЛ, асобная дзяржава. А ў іх трохі іншы погляд на гэтыя рэчы», — цытуе прызёрку чэмпіянатаў свету і Еўропы ў бегу з бар'ерамі Аліну Талай generation.by.

## Памерла 34-гадовая спартсменка Ірына Чарнушэнка-Стасюк




«На 35-м годзе пайшла з жыцця шматразовая чэмпіёнка Рэспублікі Беларусь, майстар спорту міжнароднага класа ў скачках у даўжыню, пераможца Кубка Еўропы, удзельніца Алімпійскіх гульняў у Пекіне. Жыццё яе было імклівае і прыгожае, як скачок у даўжыню... Шмат што паспела зрабіць, была байцом з жалезным характарам...», — гаворыцца ў паведамленні Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

Апошнія некалькі гадоў Ірына змагалася з ракавым захворваннем.

## Італія, Англія, Уругвай — група смерці

На бразільскім курорце Кошту-да-Саўіпе адбылося лёсаванне групавога этапа **Чэмпіяната свету па футболе-2014**.

Вось так выглядаюць групы:

**A:** Бразілія, Камерун, Мексіка, Харватыя

**B:** Іспанія, Чылі, Аўстралія, Галандыя

**C:** Калумбія, Кот-д'Івуар, Японія, Грэцыя

**D:** Уругвай, Італія, Коста-Рыка, Англія (мабыць, групы B і D выглядаюць найбольш моцна)

**E:** Швейцарыя, Эквадор, Гандурас, Францыя

**F:** Аргенціна, Нігерыя, Іран, Боснія

**G:** Германія, Гана, ЗША, Партугалія

**H:** Бельгія, Алжыр, Паўднёвая Карэя, Расія (нашым усходнім суседзям зноў пашанцавала).

Чэмпіянат пройдзе **з 12 чэрвеня да 13 ліпеня ў Бразіліі**.



**Сцісла**

**«Дняпро» застанецца з намі**

Магілёўскі футбольны клуб перамог «Гарадзею» ў матчах за права застацца ў вышэйшай лізе. На гэтым футбольны сезон у Беларусі скончаны. Адновіцца ж ён толькі ў сакавіку.

**БАТЭ больш за ўсё выкарыстоўвае беларусаў**

У 2013 годзе з усіх каманд вышэйшай лігі больш за ўсё беларускіх футбалістаў выкарыстоўваў барысаўскі БАТЭ. На другім месцы — «Гомель». Больш за ўсё легіянераў жа было ў «Дынама» (Брэст) і «Нафтана».

**Месі, Раналду і Рыберы**

... прэтэндуюць на атрыманне «Залатога мяча». Найлепшы футбаліст свету за 2013 год будзе названы ў студзені.

**Драздоўская перамагла ў Аўстраліі**

Вядучая беларуская яхтсменка Таццяна Драздоўская стала пераможцай этапа Кубка свету па парусным спорце ў алімпійскім класе судоў «Лазер-Радыял», спаборніцтвы праходзілі ў Мельбурне.

**ЗП**



Чэмпіянат Беларусі па танцах на пілоне прайшоў у Мінску. Танец на пілоне (пілонны танец, pole dance, pole fitness, pole sport) — від фітнесу. У іх, як правіла, удзельнічаюць дзяўчаты. У кагосьці можа ўзнікнуць асацыяцыя са стрыптызам. Аднак правілы спаборніцтваў забараняюць агаленне цела і інтымныя жэсты.



Французскі патруль у горадзе Бангі, сталіцы Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі. У сакавіку паўстанцы-ісламісты зрынулі прэзідэнта краіны, і з тых часоў не спыняюцца кровапралітныя сутыкненні паміж хрысціянскімі і мусульманскімі групоўкамі. Рада Бяспекі ААН прагаласавала за ваенную інтэрвенцыю, якая павінна пакласці канец палітычнаму крызісу. За выхадныя ў Бангі забілі больш за 200 хрысціян.



На захадзе Беларусі таемна ўсталявалі яшчэ адзін помнік героям паўстання 1863-га. Стварэнне і ўсталяванне помніка праводзіліся пад вялікім сакрэтам, яго месца не раскрываецца. Праект каштаваў даволі дорага.



Мясніковіч і ткачыха. Кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч здзейсніў паездку на Пастаўскі льнозавод, дзе азнаёміўся з вытворчасцю, а таксама з ходам будаўніцтва новага цэха.

## Анекдоты і жарты

* * *

Лукашэнка аб'явіў 2014-ы годам беражлівай дэмакратыі.

* * *

У Брэсце адключылі ўкраінскія тэлеканалы. Хутка замест іх уключаць іранскія і венесуэльскія.

* * *

Лукашэнка пытае ў беларусаў: «Хочаце жыць як у дэмакратычнай Англіі?»

Беларусы адказваюць з энтузіязмам: «Так, хочам!»

Лукашэнка на гэта: «Ну, тады праз тыдзень мая каранацыя».

* * *

У прыродзе ёсць тры істоты, якія пры мінус 25°С ніколі не мерзнуць:

1) пінгвіны;

2) белыя мядзведзі;

3) дзяўчаты ў міні-спадніцах і без шапак.

* * *

Запомніце дзве кароткія фразы, якія дапамогуць вам адчыніць любыя дзверы ў гэтым жыцці: «Ад сябе» і «Да сябе».

* * *

Браты-ўкраінцы! Калі ўваход на Майдан для турыстаў будзе платным, то Януковіча можна будзе проста купіць і вырашыць усё мірна і хутка.

***

Увесь інтэрнэт любіць катоў таму, што з сабакам трэба гуляць тры разы на дзень. А гэта — паўтары гадзіны без камп'ютара.

* * *

Украінскія помнікі Леніна папрасілі палітычнага прытулку ў Беларусі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінскі губернатар Гірс** меў доўгую размову з міністрам унутраных справаў, з тэй прычыны, што яго вызваў на паядынак быўшы губернатар Бэклеан.

**«НН». №50. 1913.**

**Веліч і падзенне Івана Шамякіна.** Гэты твор стаў адкрыццём і для прыхільнікаў, і для непрыхільнікаў Івана Шамякіна. Непрыхільнікі — а гэта пераважна моладзь, знаёмая з Шамякіным з таблоідаў і хрэстаматый, — будуць уражаныя беларускасцю і інтэлігентнасцю пісьменніка, які мае імідж савецкага і камерцыйнага. «Успаміны» раскрыюць сакрэты мільённых выданняў. Шамякін у пошуках дакументаў быў гатовы звяртацца да старшыні КДБ, а сюжэты збіраў нават у кантактах з міністрамі.

**«НН». №46. 2003.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8009. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 10.12.2013.
Замова №5287.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 13046